Канстанцін Міцкевіч: «У лісце Панамарэнкі да Сталіна, дзе была просьба санкцыянаваць у Беларусі дадатковыя расстрэлы, фігуравала і бацькава імя...» ( Гутарку з сынам Якуба Коласа чытайце на стар. 3.)

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 49 (4404)**

25 чэрвеня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Не ўпусціце шанц!

Хто з вас, шаноўныя чытачы, яшчэ не паспеў працягнуць падпіску на «Народную Волю» на ліпень і наступныя месяцы – ёсць лічаныя гадзіны, каб выправіць сітуацыю. Завітайце сёння да канца рабочага дня ў любое паштовае аддзяленне і аформіце падпіску на любы тэрмін – месяц, два, квартал, да канца года.

Нагадваем: кошт месячнага камплекту нумароў «Народнай Волі» – менш за 8 рублёў.

***Калі хочаш лепшай долі –***
***дапамажы «Народнай Волі».***
***У свеце ПРАЎДЫ жыць імкніся,***
***на газету падпішыся.***

**Рэдакцыя.**

## Учора на 18 гадзін Беларусь заваявала 34 медалі. З іх – 10 залатых

*Першымі нашымі залатымі прызёрамі ў спаборніцтвах па спартыўнай акрабатыцы сталі* ***Вераніка Набокіна, Юлія Івончык*** *і* ***Карына Сандовіч*** *(на фота).*



У агульным медалёвым заліку Еўрапейскіх гульняў, якія працягваюцца ў Мінску, зборная Беларусі пакуль ідзе на 2-м месцы – паміж Расіяй і Украінай.

Улічваючы, што на І Еўрапейскіх гульнях у Баку на рахунку беларускіх спартсменаў было 43 медалі, можна сказаць, што рэкорд будзе пабіты.

СУСТРЭЧА

## Як іспанка сустрэлася ў Мінску са сваім кумірам

*На Гульні прыехала іспанская балельшчыца, якая зрабіла сабе на руцэ татуіроўку з выявай беларускай гімнасткі Кацярыны Галкінай.*

Беларуская асацыяцыя гімнастыкі, калі даведалася пра гэты факт, вырашыла зрабіць іспанцы падарунак і запрасіла 27-гадовую Сюзану Кардоба Дэльгада ў Мінск на Еўрапейскія гульні, каб тая змагла сустрэцца з кумірам асабіста, паведамляе TUT.by. Усе выдаткі на сябе ўзяў беларускі бок.

У выніку Сюзана і Кацярына Галкіна сустрэліся, іспанка падарыла нашай гімнастцы букет ружаў і рукзак, які набыла ў аэрапорце Мадрыда.

Дарэчы, іспанка і сама займалася мастацкай гімнастыкай да 16 гадоў, але вялікіх поспехаў у спорце не дасягнула. Зараз яна працуе ў адвакацкай фірме ў Мадрыдзе, але рэгулярна сочыць за тым, што адбываецца ў мастацкай гімнастыцы.

ТОЧКИ НАД «І»

## «У посла обычный обморок, а в СМИ подняли шумиху…»



Врачи вчера успокоили: посол Сербии в Беларуси Велько Ковачевич чувствует себя нормально, его самочувствие значительно улучшилось, он самостоятельно передвигается. Диагноз «инсульт» не подтвердился.

Этому заявлению предшествовал консилиум, который проходил в Больнице скорой медицинской помощи и на который были приглашены лучшие специалисты страны. Находилась в клинике и жена дипломата.

*«Это был обычный обморок, обусловленный духотой и жаркой погодой, при котором человек травмировался*, – рассказали «Народной Воле» медики. – *Но Беларусь в итоге выглядела не лучшим образом, потому что выходит, что кто-то раскрыл врачебную тайну и выложил информацию в Телеграмм-канал, а дальше ее подхватили интернет-ресурсы, в СМИ поднялась шумиха. Даже сербские журналы написали об этом случае».*

Вчера планировалось перевести дипломата из Больницы скорой медицинской помощи в Республиканский клинический медицинский центр Управделами президента, так называемую лечкомиссию. *«Так по статусу положено»*, – констатировали медики. Нахождение дипломата в больнице связано с полученной при обмороке травмой – переломом ребер и возникшим пневмотораксом.

Как известно, посол Сербии в Беларуси Велько Ковачевич был госпитализирован 23 июня. Он возглавляет сербскую дипмиссию в Минске с 2014 года. Дипломату за 60, в 1977 году он окончил факультет политических наук Белградского университета, с 1978 года работает в системе МИД.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

В НОМЕР!

## В Солигорске пытаются заступиться за арестованного председателя райисполкома

Похоже, что некоторые нерядовые граждане надеются не просто отбить Олега Поскробко от уголовного преследования, но и сохранить его на должности главы вертикали.

Как известно, Олег Поскробко, занимавший менее двух лет пост председателя Солигорского райисполкома, 17 июня был задержан и помещен в следственный изолятор. Ему инкриминируют превышение власти или служебных полномочий и получение незаконных денежных вознаграждений от коммерческой структуры в период, когда он был первым заместителем министра ЖКХ. То есть преступление коррупционной направленности. Следственный комитет возбудил уголовное дело по статье, санкции по которой предусматривают до 10 лет лишения свободы с конфискацией.

В Солигорске отозвались на арест Поскробко оперативно. Уже 20 июня городской портал «Электронный Солигорск» поместил статью за собственной подписью «От слов к делу. Чем запомнился Олег Поскробко на посту Солигорского райисполкома» (так в оригинале). В ней Олег Поскробко назван «представителем власти новой формации», а также утверждается, что он «был демократом и вдохновителем для многих кругов общества». Перечисляются заслуги Поскробко, к коим отнесены достойная встреча городом своего 60-летия, завершение строительства поликлиники №2, благоустройство улиц, ямочный ремонт дорог. Указывается, что при нем были заложены аллеи и скверы, начата застройка новых микрорайонов, что с его приходом как будто пришла политическая и экономическая оттепель. (Правда, не упомянуто, что эта оттепель как-то не затронула Белорусский независимый профсоюз, который именно при Поскробко вынужден был 8 месяцев бороться за регистрацию своей новой первичной организации и взывать о помощи в отстаивании своих законных интересов, в том числе и к руководству страны. Но в данной ситуации это не самое важное.)

Заканчивается публикация о положительных деяниях Поскробко в Солигорске вопросом, который, очевидно, призван быть риторическим: «Разве нашему городу и области не нужны такие руководители и собранные им профессиональные коллективы?» Ну и как логический ответ на этот вопрос под занавес сообщается, что ряд государственных организаций и частных компаний города подписали письма-ходатайства в защиту Олега Поскробко.

А на следующий день после того, как свет увидела эта статья, сайт солигорских автолюбителей AutoRun.by на странице «ВКонтакте» пригласил его пользователей поучаствовать в публичном опросе «Хотели бы вы, чтобы Олега Поскробко вернули на пост мэра города?». Предлагались три варианта ответов:

«Да, очень хороший и требовательный был руководитель», «Нет, не нужен он нашему городу», «Затрудняюсь ответить».

В опросе приняли участие 3745 человек.

«Да» ответили 22,59 процента (846 человек).

Решили, что Поскробко не нужен городу, – 30,63 процента (1147 человек).

Затруднились ответить 46,78 процента (1752 человека).

Во всей этой истории с попыткой отстоять главу солигорской вертикали удивляет не то, что определенные люди стремятся помочь Олегу Поскробко не только остаться на свободе, но и сохранить должность председателя райисполкома. Возможно, что он успел зарекомендовать себя как интересный и перспективный мэр города в сравнении с другими. Возможно, те, кто контактировал с ним по работе, а также часть жителей Солигорска реально успели отметить плюсы его деятельности на этом посту.

Но! Вот совсем недавно в России (и не только в России) журналисты и прогрессивная часть общества горячо вступились за попавшего под уголовное преследование журналиста Ивана Голунова. Действительно бились за него. Но не потому, что он хороший журналист, а потому, что уголовное дело против него посчитали сфальсифицированным, наркотики подброшенными, нарушения правовых норм со стороны полиции явными. И, как оказалось, они были правы. Уголовное преследование Ивана Голунова было прекращено. А вот из уст тех, кто пытается защитить арестованного Олега Поскробко, в том числе и путем привлечения общественного мнения через местные СМИ, как-то ничего не слышно на предмет того, что его арестовали незаконно. Скорее всего, и близко не упоминают о какой-либо фальсификации данного дела в своих ходатайствах. Но если не сомневаются, что человек реально может быть виновен в том, в чем подозревается, тогда о чем вообще речь? Как, они полагают, он может быть мэром большого промышленного города? Думают, что закон в нашей стране в отношении «крупных птиц» как бы и не обязателен к исполнению? Что на нарушения закона чиновниками определенного масштаба можно глаза закрыть, если люди они деятельные и приятные. Жить по двойным стандартам – плохая перспектива.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**
*г.Солигорск.*

СІТУАЦЫЯ

## Пратэст працягнуўся трохі больш за гадзіну...



*Учора, 24 чэрвеня, гродзенец Аляксандр Лаўрэнцьеў разбіў палатку насупраць будынка адміністрацыі Кастрычніцкага раёна абласнога цэнтра і спрабаваў такім чынам дамагчыся паляпшэння жыллёвых умоў сваёй сям'і. Ягоная акцыя не прайшла незаўважанай.*

Сутнасць пратэсту Лаўрэнцьеў патлумачыў "Народнай Волі" тым, што з жонкай і двума дзецьмі жыве на 34 квадратных метрах. Апроч іх у кватэры жыве ягоная маці. Ён неаднойчы пісаў заяву ў адміністрацыю, каб сям'і выдзелілі хаця б арэнднае жыллё, але трымаў 7 адмоўных адказаў ад чыноўнікаў.

*"Мая старэйшая дачка ўжо хутка пойдзе ў школу, а нам няма дзе нават пісьмовы стол для яе паставіць*, – усхвалявана кажа Лаўрэнцьеў. – *Ну вось прыйдзе праверка са школы, і паставяць нашу сям'ю на ўлік, як гэта шмат дзе робіцца. А мы з жонкай такога не хочам".*

Лаўрэнцьеў кажа, што кіраўнікі краіны падкрэсліваюць сацыяльны характар іх палітыкі, а на справе, як у яго выпадку, атрымліваецца, што пра звычайнага чалавека і яго сям'ю ніхто не думае.

У чарзе на кватэру Лаўрэнцьеў стаіць з 2013 года. Тыдзень таму пакінуў працу, паколькі заробку не хапала нават на пражытачны мінімум на сям'ю, таму знайшоў іншую працу, пойдзе ўладкоўвацца. Жонка таксама працуе, але атрымлівае зусім мала.

*"Мая сям'я мае вострую патрэбу ў жыллі, і чыноўнікі павінны на гэта адрэагаваць*, – упэўнены Лаўрэнцьеў. – *Калі ўлічыць усіх прапісаных у кватэры, то на кожнага выходзіць такая плошча, якая выдзяляецца чалавеку на могілках".*



Аляксандр Лаўрэнцьеў разбівае намёт каля будынка адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Гродна.

Праз некалькі хвілін, як пачалася акцыя пратэсту Лаўрэнцьева перад будынкам адміністрацыі Кастрычніцкага раёна, да яго падышлі міліцыянеры і спраўдзілі дакументы, пацікавіліся, у сувязі з чым ён разбіў намёт. Трохі пазней прыйшоў асабіста кіраўнік адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Гродна **Алег Бялінскі** і запрасіў Лаўрэнцьева для размовы ў свой кабінет.

Пасля Аляксандр распавёў: старшыня адміністрацыі з разуменнем паставіўся да яго праблемы, прапанаваў паглядзець арэнднае жыллё, але толькі з частковымі выгодамі, ў прыватным сектары (маўляў, на яго няма ахвочых, і не будзе прэтэнзій з боку тых, хто стаіць у чарзе). Са слоў Лаўрэнцьева, у адміністрацыі яму прапанавалі дапамогу з уладкаваннем на працу.

"Народная Воля" працягне сачыць за лёсам сям'і Лаўрэнцьевых.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА

Новый министр здравоохранения Владимир Караник сказал, что нужно разобраться с ценами на лекарства. Но косвенно предложил самим пациентам искать, где они дешевле, хотя, по сути, этим должны заниматься менеджеры.

– Мы обсуждаем, если получится, создать онлайн-сервис, – заявил министр. – Если наши люди купили импортный препарат за границей как минимум в полтора раза дешевле, чем он продается здесь, чтобы они представили эту информацию в режиме онлайн. Информация будет проанализирована в плане работы с поставщиками и предоставления всех документов, обосновывающих цену. Потому что нельзя на такие жизненно важные позиции, как лекарства, брать цену с потолка.



ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Умер музей?

Любимица белорусского интернета писатель, литературовед и школьная учительница Анна Северинец сделала у себя на страничке запись о посещении литературных музеев в белорусской провинции.

*«Учора з экскурсіяй завіталі ў мядзельскі школьны музей, у экспазіцыі якога – найвялікшая колькасць асабістых рэчаў Уладзіміра Дубоўкі (тры залы ажно, ахайна сабраныя, прыгожа прадстаўленыя, плюс яшчэ чатыры пакоі – гісторыя адукацыі Мядзельшчыны). Калі я была там упершыню – гады тры таму – гэта быў жывы і шматлюдны школьны музей, пры ім працаваў школьны гурток, дзеці вялі экскурсіі, а ў журнале наведванняў за месяц магло быць 400 гасцей. Зараз музей перададзены на дзяржаўны баланс. Збольшага ён зачынены – школа нават не мае ключа, каб адчыніць яго па патрэбе. Ціша, самота, запусценне. Самотны Дубоўка глядзіць з фотаздымкаў. Успамінам, сумным следам адчуваецца толькі колішняя любоў і імпэт настаўнікаў-стваральнікаў».*

Вот так получилось. Школа создала музей известнейшего белорусского поэта, и пока дети и учителя занимались им, он жил. Учителя-энтузиасты ушли на пенсию, дети выросли и закончили свою учебу, музей перешел под опеку государства – и умер. Печально.

В детстве я тоже был экскурсоводом школьного музея. Наша гродненская школа №15 имени генерала Дмитрия Карбышева гремела на весь Советский Союз. Дважды у нас проходили всесоюзные слеты юных карбышевцев. Музей был построен за деньги, собранные многими поколениями школьников на субботниках, полученные за счет сданных тонн металлолома и макулатуры. Образ несломленного героя, превращенного фашистами в концлагере Маутхаузен в глыбу льда, был центром воспитательной работы в школе. Шли годы застоя, и «ледяной генерал», казалось, был символом настоящего патриотизма.

Думаю, те, кто создавал школьный музей Дубовки, тоже надеялись, что несломленный годами ссылки поэт станет символом. Символом любви к родине – и ко всей Беларуси, и к «малой родине», родившей одного из величайших художников слова. Дети, наверное, учили стихи, отмечали дни рождения Дубовки конкурсами рисунка, а школьное здание было окружено шиповниковыми кустами не без намека на самую памятную строку из его наследия: «О Беларусь, мая шыпшына…»

Потом случилось то, о чем ярче всего написал Ярослав Гашек в романе о бравом солдате Швейке и австроимперской военной бюрократии: «Все шло хорошо, пока не вмешался генеральный штаб». У нас роль генерального штаба выполняет система государственного управления. Как только она вмешивается, любое разумное начинание впадает в состояние летаргического сна. Музей поставят на баланс, примут хранящиеся в нем экспонаты на поштучный учет и отберут ключи, чтобы материальные ценности пореже встречались с посетителями.

Литературное краеведение во всем мире считается одной из основ патриотизма. Любовь к малой родине начинается у детей с того, что им объясняют: здесь, рядом с вами, стоит дом, в котором жил гениальный поэт. Послушайте, как звучит его голос. Почитайте его стихи сами. Пройдите по той тропке, которой шел он, когда был вашим ровесником. Послушайте жаворонков, как слушал их пение он. Встретьте рассвет над речкой, как встречал его он. Эти воспоминания детства потом лягут в основу взрослых чувств, собственной ностальгии по повзрослевшей малой родине, тети и дяди будут цитировать стихи Дубовки легко и радостно, так что никакая политика не выбьет из их сердец белорусский язык, белорусскую культуру, белорусскую сущность.

Вы думаете, власть этого не понимает? А вы знаете, что один из лучших белорусских специалистов по литературному краеведению работает у нас министром информации – Алесь Карлюкевич? И его книги издаются тысячными тиражами в государственных издательствах и украшают полки книжных магазинов и библиотек.

Но одно дело – понимать и знать, и совсем другое – определять политику. Музей будет жить, пока не угаснет энтузиазм. Энтузиазм будет гореть в детях и учителях, пока они будут понимать: то, чем они занимаются, – не только интересно им, но и нужно людям. А для этого необходимо, чтобы раз в неделю в школьный музей приезжала экскурсия с такими же детьми, как сами экскурсоводы. Чтобы дети рассказывали своим сверстникам о поэте, показывали его вещи, его письма тем, кто учился в этой школе многие десятилетия назад. И – читали его стихи на память. Красивые стихи. И о Родине, и о любви.

С этим как раз «генеральный штаб» справиться может. Сколько у нас недель в учебном году? Тридцать пять, тридцать семь? Неужели в районе нет тридцати школ? Пусть раз в год каждая из школ организует один раз поездку в музей Владимира Дубовки – и вы увидите, что он немедленно оживет. Тем более что дети меняются, растут, и в следующем году на экскурсию приедут уже совсем другие школьники – не те, что в нынешнем. Проведите там детский праздник поэзии памяти Владимира Дубовки.

И так – в каждом районе. А потом экскурсанты из Мяделя, где в центре «малой родины» оказывается Дубовка, обменяются экскурсиями с читателями Павлюка Труса из Узды. Читатели Коласа из Столбцов съездят к читателям Короткевича в Оршу. И страна умирающих деревень превратится в страну читателей белорусской поэзии.

Главное – без «генерального штаба». Он пусть просто оплатит бензин и автобусы. А остальное сделают сами учителя и дети.

ДАКРАНАННЕ

# Ліст ад Васіля Быкава

Далёка не кожны дзень зазіраю ў паштовую скрыню – хіба што дзеля таго, каб выграбці добры стос рознакаляровых паперак с рэкламай і адразу, па хадзе, выкінуць у сметніцу на вуліцы. У мінулую суботу адчыніла скрыню – і ўбачыла паштовы канверт, зусім не подобны на рэкламную прадукцыю.




Адрас адпраўніка быў нанесены паліграфічным спосабам, але не афіцыйнымі друкаванымі літарамі, а больш вытанчаным шрыфтам – нібы ад рукі: «Мінская вобл., Мінскі р-н, Ждановічы-6, вул. 6-я Дачная (Вінаградная), д. 62». Адпраўнік – «Музей-дача Васіля Быкава». А малюнак на канверце – выява будынка і надпіс «Пошта Васіля Быкава».

Затахкала сэрца, нібы ў прадчуванні нейкай нечаканай і важнай падзеі. Адкрыла канверт і вынула адтуль… чорна-белую фотакартку: Васіль Уладзіміравіч стаіць, абапіраючыся на бярозу, на фоне нейкіх дачных пабудоў, і глядзіць мне ў вочы. Сур'ёзна, крыху сумна, пытальна, вусны сціснуты, нібы ён патрабавальна чакае ад мяне адказу. І злева ягоны подпіс – чырвоным.

Тут ужо дрыгнула рука. Павярнула фотакартку – там некалькі радкоў рукой… маёй сястры: «Вітаю! Сёння, 19 чэрвеня 2019 года, у дзень 95-годдзя Васіля Быкава, пішу гэты ліст з дачы Васіля Уладзіміравіча… Сёння ж мяне прынялі ў Клуб сяброў Быкава. Адказнасць. Але радасна!»

Эмацыянальнае ўздзеянне нечуванай моцы! Слёзы пакаціліся з вачэй градам. І думка, якая ўзнікла ў той момант і ніяк не пакідае: адказу на якое пытанне чакае ад мяне Васіль Уладзіміравіч? Ці дам я яго? Ці правільна адкажу?

Дзякую ўсім, хто вось так неспадзявана злучыў мяне з Вялікім Беларусам, дазволіў паразмаўляць з ім сам-насам!

**Аляксандра ЛОБЗАВА.**

АТЫ-БАТЫ

# Отсрочку от армии на учебу можно будет получить только один раз

*Служба в армии по желанию будет засчитываться в срок распределения.*



Такая норма содержится в законопроекте «Об изменении законов по вопросам эффективного функционирования военной организации государства», который вчера был внесен в Палату представителей.

*«Для определенных категорий граждан вводится принцип одноразовости предоставления отсрочки для продолжения образования*, – говорит в обосновании законопроекта министр обороны **Андрей Равков**. – *Существующее правовое регулирование порядка предоставления отсрочек от призыва на срочную военную службу, службу в резерве для продолжения образования не позволяет обеспечить комплектование Вооруженных сил, других войск и воинских формирований на уровне, обеспечивающем их высокую боевую и мобилизационную готовность. Нынешний порядок обжалования решений призывных комиссий используется гражданами как механизм уклонения от прохождения воинской службы»*.

По словам министра обороны, по итогам прошедшей весной 2018 года призывной кампании потребность войск в новом пополнении была удовлетворена только на 62,5%. В то же время призывными комиссиями было предоставлено 30.111 отсрочек от призыва, из которых 24.057 – для продолжения образования (79,9%).

В результате ухудшения демографической ситуации и увеличения оттока из страны мужского населения в возрасте до 27 лет уменьшение общего количества призывников в стране будет происходить до 2025 года (13 призывных кампаний).

*«Сложившаяся ситуация с призывными ресурсами не позволит с 2019 года в полном объеме и с надлежащим качеством комплектовать Вооруженные силы, другие войска и воинские формирования новым пополнением и не будет способствовать выполнению возложенных на них служебно-боевых задач, что создаст угрозу национальной безопасности»*, – убежден генерал.

В проекте закона говорится: *«С целью обеспечения конституционного права граждан на получение образования предлагается предоставлять отсрочки от призыва для получения общего среднего образования. При этом по окончании учебного заведения гражданину будет предоставляться отсрочка от призыва при поступлении в учебные заведения, обеспечивающие получение образования другого уровня»*.

Равков не скрывает: в последние годы в органах госуправления растет число руководителей, которые не прошли военную службу. И предлагает ввести ограничения по принятию на госслужбу тех, кто не служил в армии.

*«Сегодня карьера государственного служащего в нашей стране никак не связана с исполнением им самим воинского долга*, – отмечает министр. – *Вместе с тем, согласно законодательству, например, председатель областного (городского, районного) исполнительного комитета в военное время является председателем местного Совета обороны, начальником зоны (района) территориальной обороны, в связи с чем он должен разбираться в военных вопросах и уметь управлять подчиненными территориальными войсками. Такие же функции будут исполнять его заместители»*.

Андрей Равков говорит, что белорусы активно используют свое право на обжалование решений призывных комиссий.

*«В настоящее время законодательство, в том числе о праве на льготы, не дает военнослужащему срочной военной службы ощутимых преимуществ перед другими гражданами страны*, – говорит Равков. – *Поэтому большинство граждан призывного возраста стремится найти законный путь не проходить срочную военную службу либо вовсе уклониться от призыва»*.

Причем это происходит, как правило, в период отправки призывников в войска.

*«В случае массового обжалования гражданами решений призывных комиссий в суд на данной стадии призыва, комплектование Вооруженных сил новым пополнением в полном объеме будет невозможным*, – приводит факты генерал. – *Особенно возросло количество таких случаев в ходе проведенных в 2018 году призывов, при этом содержание всех жалоб было одинаковым согласно образцу, размещенному в интернете. А после того, как призывная кампания была завершена, большая часть призывников от поданных жалоб отказалась до рассмотрения их судами либо прямо в суде»*.

**Марина КОКТЫШ.**

КОНКУРС

# «Яны гэтак жа мараць і на штосьці спадзяюцца…»

*Праваабаронцы абвясцілі пераможцаў мастацкага конкурсу «Мары з-за кратаў».*

Конкурс мастацкіх прац зняволеных папраўчых устаноў і іншых месцаў няволі праваабаронцы абвясцілі на пачатку 2019 года. Цягам некалькіх месяцаў былі атрыманы дзясяткі разнастайных па выяўленчым жанры прац, усе яны прадстаўлены на выставе «Мары з-за кратаў», якая адкрылася не так даўно ў Мінску на адукацыйнай пляцоўцы «Тэрыторыя правоў» ва Уруччы.

*Каардынатар конкурсу юрыст-эксперт* **Павел Сапелка** *зазначыў: «Людзі, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі, жывуць тымі ж самымі каштоўнасцямі, што і мы. Яны гэтак жа мараць і спадзяюцца на штосьці. І ў іх ёсць вельмі важныя і цікавыя думкі, якія яны хочуць данесці»*.

Сярод аўтараў мастацкіх прац вызначаліся тры прызавыя месцы: першыя два выбірала прафесійнае журы, трэцяе месца прысуджана на падставе меркаванняў наведвальнікаў выставы, калі кожны меў магчымасць вызначыць найбольш упадабаны малюнак. Асноўную частку мастацкіх прац склалі графічныя работы алоўкам ці каляровымі асадкамі, пастэллю, бо ва ўмовах зняволення любыя фарбы і палатно, відаць, недасягальная раскоша.

У журы ўвайшлі вядомыя беларускія творцы – мастак **Алесь Пушкін,** прадстаўнік беларускага актуальнага мастацтва і куратар праектаў **Руслан Вашкевіч,** а таксама дызайнер і галоўны рэдактар часопіса «pARTisan» **Артур Клінаў.**

У выніку 1-е месца і грашовы прыз у 200 рублёў атрымаў **Валерый Сівакоў** за працу «Парад планет падчас ранішняга шпацыру».

Варта адзначыць, што праца Валерыя Сівакова атрымала высокія ацэнкі і простых наведвальнікаў, і прафесійных мастакоў. Паводле слоў Руслана Вашкевіча, *«аўтар ведае нейкі бэкграўнд, яго неба – не проста так, гэта начное неба Ван Гога. Зона, плот, калючы дрот, парад планет, які ён пабудаваў. На маю думку, гэта вельмі глыбокая праца пры ўсёй сваёй простай падачы»*.

Другое месца і грашовы прыз у 100 рублёў атрымаў **Аляксандр Марцута, які** даслаў амаль 20 прац. Дзевяць з іх тэматычна складаюць адно пано.

Трэцяе месца і прыз у 100 рублёў – у **Арцёма Токара**. На адкрыццё выставы завітала маці Арцёма, яна распавяла, што сын займаўся ў творчым гуртку, навучаўся у мастацкай вучэльні, асуджаны па артыкуле 328 КК.

Сябра журы мастак Алесь Пушкін адзначыў: якасць прадстаўленых на выставе прац тых, хто «мае таленты і марыць пра волю», вельмі высокая.




Руслан Вашкевіч падкрэсліў, што яго ўвогуле не засмучае той факт, што выстава не прафесійная, і на ёй нельга было пабачыць вялікія палотны:

*«Сярод прац шмат тэксту, тлумачальных запісак, а гэта ўжо твор мастацтва. Цяпер сучасныя актуальныя выставы падобныя на гэтую экспазіцыю, калі прадстаўлены малюнкі невялікага фармату са схемамі і інструкцыямі «да дзеяння» замяняюць вялікія экспазіцыі з буйнафарматнымі палотнамі і алеем. Важны не матэрыял, якім гэта ўсё зроблена, а жывая думка. Мне здаецца, у гэтых хлопцаў жывой думкі значна больш, чым у мастакоў «на волі», але на самай справе палонных, таму што яны запаланёныя ідэяй нажывы, узбагачэння, прасоўвання, кар'еры»*.

Асобны прыз конкурсу – паўгадавая падпіска на выданне ад рэдакцыі «Белгазеты» атрымаў **Зміцер Філіпцоў**, аўтар карыкатуры *«Турма перапоўнена, засталіся толькі адкідныя месцы»*.

**Павел Сапелка** пасля абвяшчэння пераможцаў падкрэсліў: *«Выбраць пераможцу было вельмі складана сярод такой разнастайнасці жанраў і тэматыкі, некаторыя дасылалі цэлыя зборнікі вершаў... Тыя, хто не стаў прызёрам, – гэта не таму, што іх працы былі горшыя, а проста таму, што ўсе адразу не маглі перамагчы»*.

Вельмі важна, каб людзі, якія нясуць пакаранне ва ўмовах зняволення, маглі таксама і самарэалізоўвацца, бо задача пенітэнцыярнай сістэмы – выпраўленне, дапамога ў асэнсаванні жыццёва правільных арыенціраў, а не падаўленне.

**Кацярына АБРОМЧЫК.**

МА-ЛАЙ-ЦЫ!

# У Гродне з'явілася кавярня, якая кожны аўторак 10 працэнтаў ад агульнай выручкі пералічвае на дабрачыннасць

Гродна перажывае сапраўдны бум: з'яўляюцца новыя кавярні, закусачныя, рэстараны. Гэта не можа не цешыць гродзенцаў і гасцей горада. Пасля доўгага перапынку, калі ў цэнтры горада цяжка было знайсці дзе паабедаць і пасядзець за кубачкам кавы ці гарбаты, многае змянілася – турызм за апошнія два гады абудзіў старажытны горад.

Цяпер кожны можа выбраць кропку харчавання на свой густ: з беларускай, замежнай, нетрадыцыйнай кухняй, каву падаюць па такіх рэцэптах, што нават у інтэрнэце цяжка знайсці пра іх інфармацыю. Шматлікія турысты з Еўропы, якія аблюбавалі заходні горад Беларусі, бавяць час у гродзенскіх кавярнях і рэстаранах і пры гэтым не хаваюць свайго задавальнення.

Новая гродзенская кавярня Coffee Pause адчынілася ў старым горадзе на Вялікай Траецкай. Асаблівасць яе не толькі ў смачнай пахучай каве і незвычайным печыве. Гэта адзіная кавярня ў горадзе, а магчыма, і ў Беларусі, якая кожны аўторак 10 працэнтаў ад агульнай выручкі пералічвае на дабрачыннасць.

*«У нашым горадзе так шмат людзей, якія маюць патрэбу ў сродках на жыццё, часам нават крытычна. І мы шчаслівыя, што маем такую магчымасць, каб дапамагчы тым, у каго ўсё склалася не вельмі добра ў жыцці»*, – напісала ўласніца кавярні на сваёй старонцы ў Instagram. І адразу ж захацелася наведаць кавярню і пазнаёміцца з яе гаспадыняй.

## «Калі ў нас ёсць магчымасць дапамагчы, мы заўсёды ёю карыстаемся»

Coffee Pause – невялічкая, але вельмі ўтульная кавярня, і відавочна, што яе ўжо заўважылі наведвальнікі. Гаспадыня **Сняжана Кудрыцкая** трохі здзіўлена ўвагай журналістаў: яна нават уявіць не магла, каб запіс у Instagram прыцягнуў увагу СМІ.

*«У нашай сям'і так прынята, што калі мы можам дапамагчы, то абавязкова такой магчымасцю карыстаемся»*, – тлумачыць яна.

Сняжана распавядае, што ў яе ўжо ёсць звароты з аднаго фонду з прапановай пералічваць грошы на патрэбы хворых дзетак у дзіцячым доме. Яна кажа, што такая дапамога цяпер будзе пастаяннай і адраснай.



Вось, напрыклад, сёння, кажа Сняжана, 10 працэнтаў ад агульнай выручкі будуць пералічаны хлопчыку Мікіту з Гродна, якому патрэбна дарагая аперацыя за мяжой.

*«Магчыма, і іншыя падтрымаюць мяне ў гэтым. Зараз у Гродне ёсць людзі, якія могуць нешта даць іншым, і, на жаль, шмат тых, каму патрэбна дапамога*, – кажа спадарыня Кудрыцкая. – *З аднаго боку, для нас гэта невялікія грошы, але і не малыя, паколькі мы толькі пачалі свой маленькі бізнес і яшчэ зусім не ведаем, што нас чакае наперадзе»*.

## Адкуль гэта ўва мне?

Цікаўлюся ў гаспадыні кавярні: чаму яна, толькі распачаўшы сваю справу, пачынае аддаваць сродкі на дабрачыннасць? Сучасны бізнес напоўнены рознымі маркетынгавымі хадамі і лабірынтамі, і я імкнуся зразумець – ці не дзеля бізнесу гэта?

Сняжана распавядае пра сябе: і яна, і муж нарадзіліся ў звычайных гродзенскіх рабочых сем'ях. У іх трое дзяцей, двое ўжо навучаюцца ў ВНУ, а самая малодшая дапамагае падчас канікул у кавярні. Сняжана многія гады працавала ў гандлі, проста на сябе, як прадпрымальнік.

*«Нам таксама ў жыцці часта было вельмі цяжка, але дапамагалі бацькі. Яны заўсёды казалі: трэба працягваць руку тым, каму цяжка»*, – згадвае жанчына.

У 1990-я Сняжана і яе бацькі, каб зарабіць на жыццё, ездзілі ў Польшчу за таварам, стаялі ў даўжэзных чэргах на мяжы, працавалі па 24 гадзіны ў суткі. Кожная капейка нажывалася працай.

Цікаўлюся, як жанчына знаходзіць людзей, якія маюць патрэбу ў сродках на жыццё. Ды для гэтага асабліва і прыглядацца не трэба, – адказвае.

*«Можна нават многім суседзям дапамагчы: бабуля на мізэрную пенсію ледзь выжывае, у кагосьці дзеці вучацца, і бацькі не маюць грошай на аплату, нехта купляе дарагія лекі… Прыходзяць дзеці са школы і распавядаюць, што бацькі сяброўкі не мелі грошай дзіцяці на экскурсію... І гэты спіс можна працягваць»*, – сумна заўважае спадарыня Кудрыцкая.

## Чаму менавіта кавярня?

Спадарыня Сняжана згадвае свае паездкі за таварам у Польшчу: раніцай у Беластоку ішла піць каву і з задавальненнем назірала, як падвозяць у кавярню духавітыя смачныя дэсерты, якіх у нас тады яшчэ не было.

Тады і закраліся думкі зрабіць нешта падобнае ў сваім горадзе, каб гродзенцы, спяшаючыся раніцай на працу, маглі выпіць кавы са смачным дэсертам.

Пазней былі падарожжы па іншых еўрапейскіх краінах. Уразіла Швейцарыя, а пасля таго, як наведала кавярні Вены, прыклала ўсе магчымасці, каб стварыць нешта падобнае ў любімым Гродне.

*«Мы імкнёмся, каб у нас было зручна і тым, хто прыходзіць з дзецьмі, і парам, і сяброўскім кампаніям*, – распавядае Кудрыцкая. – *Дарэчы, у нас шмат задумак, якія мы пакрысе ўвасабляем у жыццё, пры гэтым глядзім, што болей падабаецца наведвальнікам»*.

Спадарыня Сняжана лічыць, што, хаця Гродна самы цудоўны горад на зямлі, яго можна і трэба рабіць яшчэ лепш.

*«Але ніхто за нас нічога не зробіць...»* – падсумоўвае гаспадыня кавярні.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
25 ЧЭРВЕНЯ 2019 г.

ДЫЯЛОГІ

## Міхась СКОБЛА – Міхась МІЦКЕВІЧ

# «У Якуба Коласа шасцёра ўнукаў, сямёра праўнукаў і сем прапраўнукаў»

*У доме сына шмат што нагадвае пра знакамітага бацьку: фотаздымкі на сценах, зборы твораў у масіўных кніжных шафах, бюсцік з белага мармуру на старасвецкай камодзе. Ды і ў аблічча сынавым лёгка пазнаюцца бацькавы рысы – высокі лоб, глыбокія вочы, традыцыйныя вусы... Гаспадар дома і ў паважным веку валодае незвычайнай памяццю – не заглядваючы ў кнігу, чытае цэлыя раздзелы з паэм «Новая зямля», «Сымон-музыка», «Міхасёвы прыгоды». Дарэчы, апошняя прысвечана яму – Міхасю Канстанцінавічу МІЦКЕВІЧУ, малодшаму сыну Якуба Коласа, майму сённяшняму суразмоўцу.*

### «Я ніколі не хваліўся сваім бацькам»

**– Міхась Канстанцінавіч, у вас ёсць кніга ўспамінаў, якая называецца «Пад бацькоўскім дахам». Цяпер пад тым дахам знаходзіцца Музей Якуба Коласа. Дом выглядае прасторным, калі не ведаць, што ў ім жылі тры сям'і. Не цеснавата было?**

– Не, месца хапала. Дом быў пабудаваны па пастанове ўрада да 70-годдзя бацькі. На першым паверсе размясціліся сыны з сем'ямі – у пакоях насупраць. Праз шкляныя дзверы добра было відаць, што адбываецца ў абодвух пакоях. Неяк жонка старэйшага сына пасварылася са сваім мужам. Меншы сын супакойваў яе ў сваім пакоі, а яго жонка гутарыла са старэйшым цераз калідор. Зайшоў Колас, глянуў налева, глянуў направа – чорт ведае што робіцца! Няўжо сыны паблыталі жонак? Махнуў рукою і сказаў: «Усё роўна ўнукі будуць мае!» Помню, як адзначалі 25-годдзе шлюбу бацькоў. Хацелі заказаць торт у выглядзе разгорнутай кнігі з надпісам: «Пінск 1913 – Мінск 1938». Кандытар напалохаўся: «Пінск у панскай Польшчы – я не магу так напісаць!» Мой брат Юрка (ён у 1941-м загінуў на фронце) павіншаваў бацькоў і сказаў: «Дзякуй вам за тое, што я ні разу не чуў вашых сварак». Мы з жонкай таксама пражылі дружна 55 гадоў.

**– І за гэты час між вамі не было сварак ці сур'ёзных спрэчак?**

– Практычна не было. Калі даходзіла да нейкіх непаразуменняў (у жыцці рознае бывае), то я дні два памаўчу, і ўсё ўладзіцца.

**– Давайце згадаем ваша дзяцінства. Вы тады жылі ў дастатку?**

– Дастатку вялікага не было, жылі сціпла. Помню, калі бацька ў 1935 годзе атрымаў ганарар за паэму «Міхасёвы прыгоды», гэта была цэлая падзея.

**– А ў юнацтве вы маглі ўзяць бацькаву «Победу» і пагойсаць па Мінску?**

– Не, так у нас не было прынята. Пазней ужо, калі з'явілася свая сям'я, мы з сябрамі часам ездзілі на паляванне – на бацькавым аўто.

**– Як часта ў жыцці вам дапамагала тое, што вы сын Якуба Коласа?**

– Хіба толькі ўскосна. Я ніколі не хваліўся сваім бацькам. Зразумела, у акадэміі, дзе мне давялося працаваць, людзі ведалі, чый я сын, гэта адчувалася. А каб самому нагадваць – што вы, няёмка... Я наогул не люблю вылазіць наперад, выступаць перад вялікай аўдыторыяй. Ужо значна пазней мяне сталі запрашаць з лекцыямі аб жыцці і творчасці Коласа. Разоў сто выступаў у школах, ліцэях, тэхнікумах, вайсковых часцях. От тады ўжо язык мой трошкі развязаўся.

**– Ваш дом стаіць па суседстве з Музеем Якуба Коласа, які нядаўна адгарадзіўся ад нашчадкаў песняра жалезным плотам. Чаму?**

– Былая дырэктарка музея Зінаіда Камароўская запэўнівала, што гэта рашэнне Міністэрства культуры. З музеем атрымаўся канфлікт з-за праектаў, якія не адпавядалі гістарычнай праўдзе, а таксама з-за гаража і лазні, якія ў свой час бацька пабудаваў за свае грошы, але адпаведным чынам не аформіў. І Камароўская гэтым скарысталася. Пабудовы перайшлі музею, нам ні капейкі не заплацілі. Да 1976 года, пакуль у мяне была «Волга», я карыстаўся гаражом, плаціў падаткі. А ў апошні час там стаяла бацькава «Победа», якая перайшла ў спадчыну пляменніку Андрэю. І атрымалася, што яго выгналі з гаража. Ён пакрыўдзіўся і сказаў, што цяпер нават за вялікія грошы не прадасць машыну музею.

**– І куды тая «Победа» падзелася? Купалава «Шаўрале» стаіць у Ляўках, у музеі гэта адзін з самых запатрабаваных экспанатаў.**



Міхась Міцкевіч з дачкой Марыяй і ўнучкай Васілінай.

– І «Победа» была б запатрабавана. Але пасля захопу гаража пляменнік яе некуды вывез. Бацька ездзіў на той «Победе» гадоў пяць, пакуль не атрымаў ад Акадэміі службовы «ЗіМ». А самы першы легкавік – «Опель» – яму пасля вайны падарыў Панамарэнка. Пры гаражы ў нас застаўся склеп, дзе мы захоўваем яблыкі, марынады розныя. Дык я туды хаджу ў выхадныя, калі экскурсій няма.

### «Новая зямля» была настольнай кнігай Машэрава

**– Іван Шамякін у сваіх успамінах напісаў, што ўлада пасля вайны рабіла з Якуба Коласа ікону, у Маскву ён ездзіў у спецвагоне з прыслугай і г.д. Ці адпавядае гэта праўдзе?**

– Гэта хлусня, ніякага спецвагона не было. Я не ведаю, чаму Шамякін так панапісваў. Праўда, мой брат Даніла даў яму ў друку добры адлуп – карэктны і ў той жа час вельмі хлёсткі. З Шамякіным мы часта сустракаліся ў Акадэміі на розных сходах. Ён, відаць, адзіны з акадэмікаў, хто падпісаў ліст да кіраўніка краіны пад назвай «За историческую правду» – пра тое, што ў гістарычных выданнях выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» тэндэнцыйна трактуюцца пэўныя падзеі. Пры сустрэчы я папракнуў Івана Пятровіча: «Нашто ты падпісаўся? Што ты ў гэтым разумееш? Гісторыкі гадамі сядзяць у архівах, вышукваючы зярнятка праўды!» Помніцца, ён апраўдваўся: «Я не мог адмовіць людзям, якія да мяне прыйшлі з тым лістом». Тады я прысвяціў Шамякіну эпіграму: «*У калодзеж, дзед, хто б ні прасіў цябе – не плюй / і не пагань струмень вадзіцы чыстай і халоднай, / каб не казаў пасля ні сын, ні ўнучак родны, / што дзед ягоны быў халуй – / ці то заслужаны, ці то народны*».

**– Вы памятаеце розных кіраўнікоў БССР – Панамарэнку, Мазурава, Машэрава. Хто з іх з найбольшай павагай ставіўся да Якуба Коласа, да яго творчай спадчыны?**

– Назваўшы Панамарэнку, трэба ўспомніць яго ліст Сталіну 1938 года. Страшны ліст – з просьбай санкцыянаваць у Беларусі дадатковыя расстрэлы. У тым лісце фігуравала і бацькава імя. Панамарэнка пасля вайны, відаць, убачыў, што з інтэлігенцыі амаль нікога не засталося, і змяніў свае адносіны да тых, хто выжыў. Помню, як пасля пахавання маёй маці ў 1945 годзе ён запрасіў бацьку і мяне да сябе на дачу. Бацьку выдзеліў трафейную малалітражку, а мне радыёпрыёмнік. І да нашай сям'і адносіўся ўжо прыхільна. Аднойчы з Ларысай Александроўскай без папярэджання зайшоў у госці, але бацькі не было дома. Мазураў ад самага пачатку, як стаў першым сакратаром ЦК КПБ, ставіўся прыхільна. Неаднойчы бываў у нас дома, на бацькавы юбілеі прыходзіў.

**– Машэраў пры жыцці Коласа быў камсамольскім лідарам і партыйным сакратаром абласнога ўзроўню. Але, стаўшы кіраўніком БССР, паставіў велічныя помнікі і Коласу, і Купалу.**

– Машэраў мне асабіста казаў, што «Новая зямля» – яго настольная кніга. Неяк ён заходзіў да нас у Фізіка-тэхнічны інстытут, я расказваў яму пра нашы навуковыя дасягненні. А потым ён адвёў мяне ўбок неафіцыйна пагаварыць. Вядома ж, Машэраў ва ўсім падпарадкоўваўся Маскве, але з ім можна было як з чалавекам паразмаўляць. Ну і беларускую літаратуру ён чытаў, цікавіўся яе навінкамі. Гэта таксама пра многае сведчыць.

### «Янка Купала калі выпіваў, то губляў арыентацыю»

**– У кнізе «Пад бацькоўскім дахам» вы ўспамінаеце, як ваш бацька перажываў трагічную смерць Купалы ў Маскве ў 1942 годзе. Ён лічыў яе выпадковай?**

– Мы з бацькам пра гэта не гаварылі. Але ён сапраўды перажываў, пісаў: «Весць аб Янкавай смерці вострым нажом прайшлася па маім сэрцы». Я думаю, што Купала выпадкова ўпаў у лесвічны пралёт. Сам, без дапамогі кагосьці. Справа ў тым, што калі ён выпіваў, то губляў арыентацыю і падаў. Аднойчы ў нас дома адзначалі 1 Мая, здаецца, у 1940-м. Іван Дамінікавіч сядзеў побач са мной. Выпілі зусім няшмат, прычым нямоцнай наліўкі. Ён устае і – падае. Я ледзь паспеў яго падхапіць, Купала быў такі лёгенькі... А Купаліха падбегла і – кулаком па спіне яму. Я не стрымаўся: «Цётка Уладзя, што вы робіце?! Не біце дзядзьку Янку!» І такое было. Я запомніў бацькаву эпіграму пра тое, як Купала ездзіў на курорты, дзе трохі адвыкаў ад чаркі. «*Абмыецца Янка ў нарзане, / прыедзе здаровы, як бык. / Гарэлку ж піць Янка як стане, – / дык з'едзе наш Янка на пшык. / Зноў Янка наш возьме пуцёўку, / стралою махне на курорт, / бо Янка наш мае галоўку, / бо Янка наш хітры, як чорт*». І так, з паўторам, некалькі разоў...

**– А яшчэ вы прыгадваеце мінскага настаўніка Адама Брыша, які ў час ваеннай калатнечы спрабаваў уратаваць ад пажару Коласавы рукапісы і каштоўныя рэчы, што захоўваліся ў сейфе. Дык той Брыш аказаўся стрыечным прадзедам маёй жонкі Ларысы.**

– Вось які цесны свет. Адам Брыш сябраваў з бацькавым дзядзькам Ігнатам Юр'евічам Міцкевічам. На жаль, рукапісы ў закапаным сейфе ператварыліся ў труху. Бацька пасля пісаў у лісце да маці: «Цябе, відаць, цікавіць, што засталося ў тым сейфе. Усё заплыло пяском, папера сатлела». Але збярогся мамін маленькі залаты гадзіннік, партсігар і дзве чаркі – падарунак Янкі Купалы бацькам на 25-годдзе шлюбу. Чаркі мой брат Даніла пачысціў салянай кіслатой, яны цяпер у музеі.

### «Акадэмічныя літаратуразнаўцы ў нас баязлівыя»

**– Коласаў брат Міхась Міцкевіч пасля вайны жыў у ЗША (у эміграцыйным друку ён выступаў пад псеўданімам Антось Галіна). Ці хоць неяк кантактавалі браты між сабой?**

– На жаль, не. І ў нас, Коласавых сыноў, кантактаў з дзядзькам не было. Справа ў тым, што немцы падчас вайны дазволілі адкрываць беларускія школы, і дзядзька пайшоў працаваць настаўнікам. Потым быў дырэктарам, школьным інспектарам, чым мог дапамагаў сваім. Як успамінаў былы партызан Янка Брыль, тое, што немцы не спалілі Мікалаеўшчыну, – заслуга найперш дзядзькі Міхася. Калі б ён у 1944-м не з'ехаў на Захад, паехаў бы на ўсход, у ГУЛАГ… Толькі на пачатку 1990-х на з'ездзе беларусаў Паўночнай Амерыкі з ім сустрэлася мая дачка Марыя. Дзядзька тады быў ужо слабы, перадаў ёй свой пераклад Евангелля на беларускую мову. Нядаўна ён дэманстраваўся на выставе «Беларусь і Біблія» ў Нацыянальнай бібліятэцы. Там пераклад сканіравалі, і цяпер любы даследчык можа з ім пазнаёміцца.

**– Вы ўваходзілі ў рэдкалегію Збору твораў Коласа ў 20 тамах (апошні выйшаў у 2012 годзе). Скажыце, чаму многія тэксты там падаюцца ў савецкіх цэнзураваных варыянтах?**

– Акадэмічныя літаратуразнаўцы ў нас асцярожныя, вярнуць дасавецкія варыянты ім не хапіла адвагі. Я неаднаразова звяртаў іх увагу на падобныя моманты. Асабліва калі дайшлі да «Сымона-музыкі». З паэмы за савецкім часам было выкінута больш за сотню радкоў! У Коласа, дарэчы, ёсць верш «Мая спадчына» – пра тое, як цэнзура калечыла яго творы. Ён больш за паўвека праляжаў у архіве КДБ і паказвае, у якой роспачы быў паэт: «*Зямля новая» пакрыта дзірваном, / і замоўк «Сымон-музыка» са званом. / Засталіся «У глыбі Палесся» толькі пні, / «Адшчапенец» мой закончыў свае дні. / Над «Распуснікам Савосем» стаіць крыж – / эх, нядоўга жыў на свеце ты, малыш. / Глушыць ніву маю дзікая трава, / засталася ад мяне адна «Дрыгва»*… Дзякуй Богу, нядаўна «Сымон-музыка» выйшаў асобным выданнем, і там адноўлены першапачатковы тэкст.

**– У вашай гасцёўні, дзе мы размаўляем, мяне здзівіла адна рэч – скульптурная выява Сталіна ў поўны рост. Хіба вы сталініст?**

– Не. Гэтага Сталіна бацьку на 70-годдзе падарыў Заір Азгур. Работу вялікага скульптара я выкінуць не магу. Помню, калі я быў у Брусэлі на сусветнай выставе, у савецкім павільёне стаяла выробленая Азгурам з чорнага мармуру скульптура Рабіндраната Тагора. І я бачыў, як дзве індыянкі сталі перад ёй на калені. Прыехаўшы дамоў, я расказаў пра гэта Заіру Ісакавічу, яму было прыемна. Цікавы быў чалавек, Колас яму шмат у чым дапамог. Праўда, неяк Азгур у адным з інтэрв'ю ўспамінаў, якія ў Сталіна былі шчырыя і добрыя вочы... Вялікі мастак павінен быў заўважыць нешта другое.

### «Як бацька я шчаслівы, а як дзед і прадзед – яшчэ больш!»

**– Аднойчы я міжволі стаў сведкам, як вам не далі слова на адкрыцці помніка Якубу Коласу ў Ганцавічах, дзе праходзіў Дзень беларускага пісьменства. Крыўдна было?**

– Прызнацца, я тады да мікрафона не рваўся. Выступоўцаў там хапала і без мяне. Затое калі мы другім разам прыехалі ў Ганцавічы, нам разы тры дарогу сталамі перагароджвалі! Людзі навыносілі закусі, напояў розных. Тут чарку выпіў, там чарку, і адчуваю, што ўжо язык заплятаецца. І людзей нельга пакрыўдзіць – стараліся ж ад душы!

**– А сёння, у свае 93, яшчэ можаце ўзяць чарачку?**

– А чаму ж не? Віно люблю вінаграднае. (*Міхась Канстанцінавіч дастае з камоды поўную бутлю літры на два.*) Гэта свайго вырабу. Я ўжо гадоў сорак раблю віно з розных ягад – з чарніц, дурніц, вішняў, парэчак. Давайце пакаштуем.

**– Смаката! І моц адчуваецца. Вам трэба гандлёвую марку зарэгістраваць – віно «Міцкевічаўскае». Тым больш на бутлі ваш партрэт.**

– Калі адзначалі маё 60-годдзе, я кожнаму выступоўцу паднёс па бутэльцы віна. Папярэдне акуратна наклеіўшы, як фірмовыя знакі, іх фотаздымкі. Усе сябры так радаваліся! А гэтую бутлю мне ўжо нехта з сяброў падарыў.

**– Вы доктар тэхнічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Ці добрую маеце пенсію?**

– Каля 700 рублёў – у параўнанні з іншымі добрая. Я і заробак, як загадчык лабараторыі, меў неблагі – 400–500 савецкіх рублёў. Жонка, кандыдат навук, 280 атрымлівала. На жыццё хапала.

**– А кім сталі вашы дзеці?**

– Старэйшы сын Сяргей скончыў БПІ, стаў інжынерам. Дачка Марыя скончыла матэматычны факультэт БДУ з чырвоным дыпломам, сын Кастусь – філфак з чырвоным дыпломам, унучка Васіліна – сацыялагічны факультэт з чырвоным дыпломам, абараніла кандыдацкую дысертацыю. Я імі ганаруся, яны дастойныя свайго дзеда і прадзеда.

**– А колькі ўвогуле ў Якуба Коласа ўнукаў і праўнукаў?**

– Шасцёра ўнукаў, сямёра праўнукаў і сем прапраўнукаў! Самай маленькай праўнучцы нядаўна споўніўся гадок. Асабліва мяне радуе, што нашчадкі займаюцца даследаваннем жыцця і творчасці Коласа. Скажам, тая ж Васіліна артыкулаў 15 апублікавала. У пляменніцы Веры Данілаўны больш за 50 публікацый, у дачкі Марыі – каля 30-ці. Так што як бацька я шчаслівы, а як дзед і прадзед – яшчэ больш!

ІМПРЭЗА

## 100 «Дзеясловаў»

Пабачыў свет юбілейны 100-ы нумар часопіса «Дзеяслоў». Ён пачаў выходзіць у 2002 годзе, калі быў створаны дзяржаўны літаратурны холдынг, куды ўвайшлі тыднёвік «Літаратура і мастацтва» і часопісы «Полымя», «Маладосць» і «Нёман». Пасля гэтага многія пісьменнікі адмовіліся супрацоўнічаць з выданнямі, у якіх дзяржава фактычна ўвяла цэнзуру. Праз некалькі гадоў з утварэннем прыўладнага Саюза пісьменнікаў «Дзеяслоў» застаўся ці не адзінай пляцоўкай, дзе маглі друкаваць свае творы члены старога саюза. Увесь гэты час часопіс рэдагуе Барыс Пятровіч (цяперашні старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў).

**25 чэрвеня** ў кавярні **«Грай»** «дзеяслоўцы» ладзяць юбілейную вечарыну, у якой возьмуць удзел аўтары 1-га і 100-га нумароў: Леанід Галубовіч, Леанід Дранько-Майсюк, Сяргей Дубавец, Уладзімір Някляеў, Алесь Разанаў, Анатоль Сідарэвіч, Міхась Скобла, Андрэй Федарэнка і іншыя. Пачатак імпрэзы – **18.30.**

**Антон ЗАГОРСКІ.**

ЧУЛІ?

## Аграгарадкі супраць «Табакерак»

Капцёўскі сельсавет Гродзенскага раёна адмовіў прадпрыемству «Энерга-Оіл» у размяшчэнні тытунёвага шапіка ў цэнтры мястэчка на грамадскім прыпынку.

Як сказала «Народнай Волі» кіраўнік спраў **Ганна Мычко,** найперш фінансавымі затратамі на адвод зямлі. Паводле яе слоў, месца на прыпынку, дзе хацелі ўладкаваць шапік, сельсавету трэба браць на баланс, а гэта цягне за сабой даволі значныя затраты.

Па-другое, сельсавет назваў і яшчэ адну прычыну, па якой не жадае размяшчэння «Табакеркі» ў сваім мястэчку, – этычную.

«*Па ўсёй краіне праводзіцца барацьба з паленнем, і нашы людзі не ўбаку ад гэтага*, – заўважыла кіраўнік спраў. – *Многія бацькі баяцца, што гэта можа правакаваць іх дзяцей на набыццё цыгарэт, і таму выказваюць сваё незадавальненне*».

Праўда, спадарыня Мычко сказала, што пытанне размяшчэння ў іх аграгарадку «Табакеркі» да канца яшчэ не вырашана.

Дарэчы, падобны шапік паўгода таму вывезлі з аграгарадка «Верцялішкі» Гродзенскага раёна. І мясцовае насельніцтва, і мясцовыя ўлады выказалі сваё негатыўнае стаўленне да падобнай прапаганды палення.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

РЭГІЁН

## Службовыя сабакі будуць ездзіць з камфортам

*Гродзенская рэгіянальная мытня атрымала аўтамабіль з кандыцыянерам для перавозкі службовых сабак прадугледжаны кандыцыянер.*



Аўтамабіль, у якім створаны такія ўмовы для перавозкі службовых сабак, паступіў у Гродзенскую рэгіянальную мытню ў межах міжнароднага праекта «Узмацненне магчымасцяў кіналагічнай службы мытнага ведамства Рэспублікі Беларусь і Рэспублікі Польшча». Фінансуецца праект за кошт Еўрасаюза.

Аўтамабіль Volkswagen Caddy 3006H 2019 года выпуску – адзін з шасці аўто, якімі папоўніцца арсенал беларускай мытні. Ён абсталяваны адмысловымі месцамі для перавозкі службовых сабак з аўтаномнай сістэмай ацяплення і вентыляцыі, якая рэгулюецца з салона аўтамабіля. Акрамя гэтага, аўтамабіль укамплектаваны неабходным наборам інструментаў, з дапамогай якіх магчыма здзяйсняць мытны кантроль. Да восені, паводле інфармацыі Гродзенскай рэгіянальнай мытні, яны павінны атрымаць яшчэ адзін падобны аўтамабіль.

Міжнародны праект па ўзмацненні кіналагічнай службы скіраваны на эфектыўную барацьбу з трансгранічнай злачыннасцю.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

Здымак www.grt.customs.gov.by

І СМЕХ, І ГРЭХ

## Толькі ў спадарыні Анісім ёсць 31 чэрвеня

Недарэмна кажуць: давярай, але і правярай. Ігнараванне гэтай народнай мудрасці з боку рэдакцыйных супрацоўнікаў, якія мелі дачыненне да размяшчэння ў мінулым нумары газеты кароценькай абвесткі Алены Анісім, старшыні ГА «Таварыства беларускай мовы», дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, прывяло да казусу: запрасілі людзей прыйсці на сустрэчу з паэтам Эдуардам Акуліным… **31** чэрвеня. Ведаючы, што ў гэтым месяцы толькі **30** дзён. На самай справе сустрэча адбудзецца 1 ліпеня.

Што і казаць: ляп, які не ўпрыгожвае газету. Але ж, прызнаючы віну рэдакцыі, у нас прэтэнзіі і да спадарыні Анісім. Калі Вы накіроўваеце ў газету нейкі ліст, то ўдумвайцеся ў тое, пра што пішаце. Інакш, як сёння, і Вам будзе сорамна, і «Народнай Волі» давядзецца з-за Вас прасіць прабачэння ў чытачоў, што мы і робім.

# Забытая слава

## Кароткі агляд ваеннай гісторыі Беларусі



*Гэты абагульняючы матэрыял з'явіўся яшчэ ў дзевяностыя гады мінулага стагоддзя. Пад агульнай рэдакцыяй доктара гістарычных навук М.Ткачова яго падрыхтавалі Г.Штыхаў, Г.Сагановіч, С.Тарасаў, А.Дзярновіч, Ю.Бохан, У.Кананoвіч, У.Амяльянчык, В.Герасімаў, С.Таляронак, М.Статкевіч. Лічым мэтазгодным працягнуць знаёміць з ваеннай гісторыяй Беларусі чытачоў «Народнай Волі».*

*(Працяг. Пачатак у №№47,48.)*

На гэты раз спакой на межах Беларусі з Маскоўскай дзяржавай патрываў даўжэй – некалькі дзесяцігоддзяў. Тая перадышка стала зацішшам перад вялікай бурай. Маскоўшчына рыхтавалася да новых захопаў, і разам з яе сілай раслі яе апетыты: цяпер нават Віленшчына ды інфлянты ўжо абвяшчаліся вотчынай маскоўскіх уладароў.

У 1558 годзе першы маскоўскі цар Іван IV Грозны распачаў вайну з Нямецкім ордэнам, каб заняць узбярэжжа Балтыйскага мора. Магістр ордэна Кетлер папрасіў дапамогі ў еўрапейскіх дзяржаў, аднак уступіцца за інфлянты пагадзілася толькі Вялікае Княства Літоўскае. Так дайшло да чарговай вайны паміж Маскоўшчынай і беларуска-літоўскай дзяржавай. Ужо на пачатку 1562 года царскія палкі спустошылі Мсціслаўшчыну, ваколіцы Шклова, Оршы, Віцебска, а праз год сам цар з 60-тысячным войскам прыйшоў і аблажыў Полацк. Маленькая полацкая залога два тыдні мужна адбівалася, але драўляныя ўмацаванні гарэлі, а падмогі чакаць не было адкуль: гетман Мікалай Радзівіл меў пад рукой толькі тры з паловай тысячы вершнікаў. 15 лютага Полацк мусіў здацца. Пад акупацыяй апынулася амаль уся паўночная Беларусь. І хоць у студзені 1564 года на полі каля вёскі Іванс, што пад Улаю, 10-тысячны корпус М.Радзівіла дазвання разбіў 30-тысячнае маскоўскае войска, Вялікае Княства Літоўскае заставалася ў складаным становішчы. Акупанты нішчылі занятыя землі, вывозілі ў палон насельніцтва (толькі з Полацка – больш за 11 тысяч), а выбіць іх з Беларусі ды іншых тэрыторый не хапала сіл. Гэта было ці не галоўнай прычынай таго, што Вялікае Княства Літоўскае пагадзілася аб'яднацца на канфедэратыўнай аснове з Польскім каралеўствам. Так у 1569 годзе была ўтворана новая дзяржава – Рэч Паспалітая.

Аб'яднаныя сілы за 1579–1580 гады вызвалілі Полацк, выгналі акупантаў з усіх раёнаў Беларусі і прымусілі Івана Грознага падпісаць у 1582 годзе мірнае пагадненне, якое юрыдычна замацоўвала безвыніковасць агрэсіі. Так, за XVI стагоддзе ў беларускай гісторыі з прыкладна 40 ваенных гадоў каля 35 выпалі на войны з Маскоўскай дзяржавай. І падчас амаль кожнай з іх тэатрам ваенных дзеянняў была Беларусь. Тым не менш народ не толькі вытрымаў гэтае жорсткае выпрабаванне на жыццяздольнасць, але яшчэ і высока ўзняў сваю гаспадарку ды культуру. На Беларусі з'явіліся першыя з усходнеславянскіх друкарняў, на старабеларускай мове друкаваўся Статут Вялікага Княства Літоўскага – адзін з найбольш дасканалых кодэксаў феадальнага права Еўропы, а вырабы беларускіх рамеснікаў карысталіся попытам далёка за межамі краіны.

Пачатак XVII стагоддзя азначыўся новым працяглым канфліктам з Маскоўскай дзяржавай. У 1604 годзе магнаты і шляхта Рэчы Паспалітай скарысталі падтрымку маскоўскага баярства ды ажыццявілі паход на Маскву. Беларусь стала плацдармам ваенных дзеянняў. У 1607 годзе пачаўся другі паход на Маскву, а ў 1609-м – кампанія па вяртанні Смаленска. Вярнуўшы гэты горад, войска Рэчы Паспалітай у 1610–1612 гадах валодала самой Масквой і прымусіла ў 1618 годзе царскі ўрад падпісаць пагадненне аб замірэнні, паводле якога Вялікаму Княству Літоўскаму былі вернуты Смаленск, Чарнігава-Северская зямля, гарады Дарагабуж, Мажайск, Вязьма. Так этнічна беларускія землі ўз'ядналіся з асноўнай тэрыторыяй краіны.

Але ўжо ў 1632 годзе маскоўскі ўрад ізноў парушыў замірэнне ды кінуў войска на ўсходнюю і паўночную Беларусь. Галоўнай мэтай гэтай вайны быў захоп Смаленска, але, скарыстаўшы зручны момант (у Рэчы Паспалітай якраз памёр манарх), царскія ваяводы паспелі пагаспадарыць і ў іншых раёнах Беларусі: захапілі Невель, Себеж, Сураж, Друю, Мсціслаў, Крычаў, спрабавалі здабыць Полацк. Невялічкая залога Смаленска (2–3 тысячы) гераічна вытрымлівала аблогу 32-тысячнай маскоўскай раці. Калі ў смаленцаў скончыліся боезапасы і хлеб, ім дапамагалі жыхары Магілёва, якія забяспечвалі абаронцаў порахам, кулямі, усім неабходным. А на восень 1633 года да Смаленска прыйшла нарэшце вайсковая дапамога. У хуткім часе ўся маскоўская армія была акружана і капітулявала. Такое буйное паражэнне царскіх ваявод клала канец вайне. Увесну 1634 года абодва бакі падпісалі замірэнне на 20 гадоў, якое пакідала нязменнымі ўсходнія межы беларуска-літоўскай дзяржавы.

Задоўга да канца вызначаных 20 гадоў замірэння царскі ўрад пачаў актыўную падрыхтоўку да вялікай інтэрвенцыі. За мяжой агромністымі партыямі закуплялася зброя, вербаваліся вайсковыя кадры, у самой Маскоўскай дзяржаве ўтвараліся новыя палкі. І калі ў 1654 годзе царскія ваяводы рушылі з войскам на Беларусь з трох напрамкаў, абараніцца не было як: маскоўскай арміі, якая з украінскімі казакамі налічвала 100 тысяч, супрацьстаяла войска Вялікага Княства ў 10 тысяч ваяроў… Талент вялікага гетмана Я.Радзівіла дазволіў яму з гэтым маленькім корпусам нейкі час стрымліваць ворага і нават выйграць сутычкі, чыніць значную шкоду, аднак абараніць краіну ён не мог…

Займаючы горад за горадам, царскія войскі за першы год вайны захапілі беларускія землі па Дзвіну і Дняпро, а на наступны год акупавалі амаль усю Беларусь, захапілі сталіцу дзяржавы Вільню. Здаецца, ніколі больш краіна не перажывала такой трагедыі. Царскія ратнікі вялі вайну азіяцкімі метадамі: спальвалі гарады і вёскі, усе рэчы хапалі, людзей забівалі ці вывозілі ў палон. Цар Аляксей Міхайлавіч ставіў праграму масавага вываду людзей з Беларусі ў Маскоўскую дзяржаву на дзяржаўны ўзровень. Планавалі набраць тут 300.000 чалавек. За палоннага была вызначана цана – некалькі рублёў. Іх прадавалі не толькі ў маскоўскіх гарадах, але і на азіяцкіх рынках. Заняволеных беларусаў маскоўскія баяры рабілі халопамі сваіх халопаў. Асобнай задачай царскага ўрада быў вывад беларускіх рамеснікаў.

З 1660 года харугвы рэгулярнай арміі Рэчы Паспалітай разам з партызанамі пачалі крок за крокам выганяць акупантаў з Беларусі. Найбольш значнымі пераможнымі бітвамі былі разгром вялізнага войска маскоўскага ваяводы Хаванскага каля Ляхавіч і бітва з арміяй Далгарукава пад Крычавам у 1660 годзе, а праз год – разгром таго ж Хаванскага пад Кушлікамі на Полаччыне. Гэта стала пераломным этапам вайны. Жыхарства Беларусі, здавалася, была аб'яднана адной мэтай – хутчэй выгнаць з краіны акупантаў. Мяшчане шэрагу гарадоў (Дзісны, Магілёва, Себежа, Гомеля і іншых) уздымалі паўстанні і без дапамогі войска знішчалі ці выганялі маскоўскія залогі. Царскі ўрад неўзабаве прапанаваў хутчэй падпісаць замірэнне, але Вялікае Княства Літоўскае дамагалася вызвалення ўсіх сваіх тэрыторый. Пагроза з боку Турцыі і Крымскага ханства паскорыла заканчэнне вайны. Замірэнне, падпісанае ў студзені 1667 года ў Андрусаве паміж Мсціславам і Смаленскам, адлюстравала недавырашанасць канфлікту. Маскоўская дзяржава не змагла ўтрымаць усяго захопленага, а Рэч Паспалітая не здолела дамагчыся поўнай перамогі.

Для Беларусі гэтае трынаццацігадовае пабоішча стала нацыянальнай трагедыяй. Загінула ці было выведзена больш за палову насельніцтва, гарады і вёскі ператвораны ў папялішчы. Разбураную гаспадарку і дэмаграфічныя страты не ўдалося аднавіць і за стагоддзе. Аслабленая краіна так і не здолела, выйсці з таго заняпаду. Знутры яе раз'ядалі рэлігійныя канфлікты, паланізацыя, а звонку цікаваў ды чакаў моманту, каб ухапіць здабычу, драпежны сусед – Расійская дзяржава.

# VII

Васямнаццатае стагоддзе ў гісторыі Беларусі ніяк не назавеш мірным ці хоць адносна спакойным. Хутчэй наадварот. Пачалося яно з Паўночнай вайны (1700–1721 гг.), у якой на беларускай зямлі зводзілі свае рахункі Расія і Швецыя. Адначасова разгараецца хатняя, «магнацкая», вайна паміж Сапегамі, Агінскімі, Вішнявецкімі і Радзівіламі, што дасталася ў спадчыну нашаму краю ад XVII стагоддзя. Сапегі шукалі падтрымкі ў шведскага караля Карла XII, а прадстаўнікі антысапегаўскай шляхецкай партыі (Агінскія і Вішнявецкія) дамаўляліся з Пятром I. Фактычна прыклад палітычнага нядбальства паказаў усім сам кароль Аўгуст II Моцны. Ён кідаўся ў абдымкі то да Пятра I, то, здраджваючы яму, да Карла XII. Прычым, спрабуючы заключыць сепаранты мір са Швецыяй, ён не спыніўся нават перад магчымасцю частковага падзелу Рэчы Паспалітай.

У рэшце рэшт у маі 1704 года ствараецца Сандамірская канфедэрацыя прыхільнікаў Аўгуста II. Яна вырашае заключыць саюз з Расіяй і аб'явіць вайну Швецыі. Праз два месяцы ўзнікае другая канфедэрацыя, якая абвяшчае «свайго» караля, Станіслава Ляшчынскага, стаўленіка Карла XII. Чарговая канфрантацыя вядзе да трагедыі – прыцягнення знешніх сіл для вырашэння ўнутраных супярэчнасцяў.

Восенню 1704 года на Беларусь уступае амаль 60-тысячнае расійскае войска пад камандаваннем Рагніна. Шведы пераходзяць Нёман, разбураюць ваколіцы Гародні. Па беларускай зямлі пачынае гуляць смерч шведскага і расійскага спусташэння. Рэч Паспалітая сапраўды ператвараецца ў заезны двор і карчму для іншаземных войскаў.

«Магнацкія войны» не сціхаюць і на працягу 1710–1763 гадоў. Асабліва абвастрылася супрацьстаянне паміж Радзівіламі і Чартарыскімі падчас выбараў новага караля пасля смерці ў 1763 годзе сына Аўгуста Моцнага – Аўгуста III. Яно зноў прывяло на беларускія землі расійскія войскі, а з імі і спусташэнні (былі разбураны Нясвіж і Слуцк – радзівілаўскія рэзідэнцыі).

Ужо ў XVII стагоддзі стала відавочным, што пашырэнне шляхецкай дэмакратыі пры паслабленні цэнтральнай каралеўскай улады вядзе да бязладдзя і разгулу анархіі ў Рэчы Паспалітай. Шляхецкае права Liberum Veto, па якім нават аднаму дэпутату дазвалялася сарваць сейм, практычна паралізоўвала дзейнасць гэтага вышэйшага органа ўлады. А сквапныя суседзі пільна ахоўвалі непарадак у Рэчы Паспалітай. У расійска-прускім дагаворы 1764 года меўся сакрэтны артыкул, паводле якога саюзнікі абавязваліся захоўваць у Рэчы Паспалітай шляхецкія свабоды «вольныя выбары караля» і Liberum Veto. Менавіта пад такімі ўмовамі яны з дапамогаю штыкоў дабіваюцца ўзвядзення на трон у 1764 годзе свайго стаўленіка Станіслава-Аўгуста Панятоўскага.

У другой палове XVIII стагоддзя «дзяжурнай» прычынай для ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы РП стала «дысідэнцкая» праблема – ураўненне ў правах некатолікаў («дысідэнтаў») з католікамі. У 1767 годзе пры падтрымцы Расіі і Прусіі ствараюцца ў Слуцку – праваслаўнымі, а ў Торуні – пратэстантамі свае канфедэрацыі. Мэтай іх было дасягненне роўнасці вернікаў усіх канфесій у РП. У 1768 годзе сейм задаволіў іх памкненні. У сваю чаргу ў тым жа годзе праціўнікі такога рашэння арганізавалі ў Бары, што ва Украіне, канфедэрацыю, якая аб'яднала шырокія колы шляхецкага саслоўя ўсёй РП. Значную падтрымку займелі барскія канфедэраты і на Беларусі. У пачатку верасня 1771 года вялікі гетман літоўскі М.К.Агінскі, сабраўшы дзве тысячы прыхільнікаў-канфедэратаў, разбіў пад в.Бяздзеж каля Драгічына расійскі атрад палкоўніка Альбічава. Аднак трывала супрацьстаяць моцы расійскага войска канфедэрацкія атрады не змаглі. Да канца 1771 года яны былі разбіты. Пасля гэтых падзей пад уздзеяннем абвастрэння міжнароднай сітуацыі адбываецца першы падзел Рэчы Паспалітай паміж Расійскай імперыяй, Прусіяй і Аўстрыяй. У 1772 годзе да Расіі адыходзіць Усходняя Беларусь.

З мэтай умацавання сацыяльна-палітычнага і эканамічнага становішча РП, а таксама каб прадухіліць далейшыя магчымыя захопы тэрыторыі, Вялікі, альбо 4-гадовы, Сейм (1788–1792 гг.) прыняў шэраг прагрэсіўных рашэнняў. Па сутнасці яны былі накіраваны на тое, каб вывесці РП з палітычнага крызісу і паставіць на шлях буржуазных рэформ. Найбольш яскрава гэтыя памкненні былі зафіксаваны ў Канстытуцыі 3 мая 1791 года. Скасаванне права Liberum Veto, адмена выбарнасці караля – цяпер трон перадаваўся ў спадчыну, павелічэнне правоў мяшчанства – усё гэта істотна абмяжоўвала правы «залатой шляхецкай вольнасці». Але, згодна з Канстытуцыяй 3 мая, пераставаў існаваць гістарычны падзел дзяржавы на Карону (Польшчу) і ВКЛ. Павінна была існаваць адна дзяржава – Рэч Паспалітая. За яе манархам захоўваўся толькі адзін тытул – «кароль польскі». Амбіцыі беларускага дваранства былі гэтым істотна зачэплены. Цэнтралізацыя ўлады ў РП занепакоіла і Расію.

У 1792 годзе Расія падтрымлівае частку беларуска-польскага магнацтва, якая аб'ядналася ў Таргавіцкую (ад назвы ўкраінскага мястэчка Таргавіцы) канфедэрацыю з мэтаю ліквідацыі рэфарматарскіх рашэнняў 4-гадовага Сейма. Пачынаецца кароткая (май–ліпень 1792 года) вайна паміж Расіяй і РП. На тэрыторыі Беларусі адбыліся дзве найбольш буйныя бітвы: пад Мірам і Бярэсцем. Вайна скончылася паражэннем РП і прывяла да другога яе падзелу. Да Расіі адышлі беларускія землі прыкладна па лініі Друга–Пінск. Апошні, Гарадзенскі (1793 г.), Сейм РП адмяніў Канстытуцыю 3 мая.

Рэч Паспалітая, неаднаразова падзеленая паміж варожымі суседзямі, у канцы XVIII стагоддзя апынулася перад магчымасцю свайго поўнага знікнення з палітычнай карты Еўропы. Аднак прагрэсіўныя колы афіцэрства, шляхты, святарства вырашаюць са зброяй у руках дабіцца сапраўднай незалежнасці, вярнуць страчаныя тэрыторыі і гонар зганьбаванай дзяржаве.

24 сакавіка 1794 года з абвяшчэння ў Кракаве Акта паўстання пачынаецца ўзброеная барацьба супраць захопнікаў пад лозунгам: «Воля, цэласць, незалежнасць». Узначальвае паўстанне генерал-лейтэнант Тадэвуш Касцюшка, па паходжанні беларускі шляхціц з-пад Бярэсця.

У красавіку 1794 года да паўстання далучаецца Літва і Беларусь. 24 красавіка ў Вільні абвяшчаецца Акт паўстання ВКЛ. У Вільні ж ствараецца напачатку асобны ад Кароны вышэйшы орган па кіраўніцтве паўстаннем – «Найвышэйшая Літоўская рада». Галоўную ролю ў падрыхтоўцы паўстання і на яго пачатку адыгрываў Якуб Ясінскі, палкоўнік «літоўскага корпуса інжынераў». Ён быў прызначаны Радай галоўнакамандуючым літоўскім войскам. Пад яго кіраўніцтвам адбыўся захоп расійскага гарнізона ў Вільні (у ноч з 22-га на 23-е красавіка), а таксама бітвы з расійцамі на Віленшчыне пад Няменчынам і Палянамі, на Ашмяншчыне пад Соламі. У гэтых бітвах прынялі ўдзел беларускія сяляне-касінеры, узброеныя асаджанымі, як дзіды, косамі.

Характэрным для паўстання на Беларусі было ўжывнне партызанскіх (дыверсійных) формаў барацьбы (як і ў сярэдзіне XVII ст.) з расійскімі захопнікамі. Першая спроба дыверсійнага рэйду на Меншчыну была зроблена ў маі пад кіраўніцтвам былога падскарбія літоўскага Міхала Клеафаса Агінскага. Потым у жніўні Сцяпан (Стэфан) Грабоўскі з 2-тысячным атрадам робіць рэйд з-пад Вільні да Бабруйска, наводзячы паніку на расійскія гарнізоны. Прыкладна ў гэты ж час у другі раз М.Клеафас Агінскі непакоіць тылы расійскай арміі. Частка яго атрада, значную долю якога складалі касінеры, даходзіць да Дынабурга, спальвае яго прадмесце. Але пасля страты Вільні (12 жніўня) касцюшкаўскае паўстанне на Беларусі ідзе на спад. Пасля паражэння літоўска-польскага корпуса генерала Серакоўскага спачатку пад в.Крупчыцы каля Кобрына (16 верасня), а на наступны дзень – пад Бярэсцем і адыходу рэштак літоўскага войска з-пад Гародні баявыя дзеянні пераносяцца на тэрыторыю Польшчы.

Спрэчкі паміж Варшавай і Вільняй аб кіраўніцтве паўстаннем у ВКЛ, адсутнасць адзінага і дасведчанага камандавання ім на Беларусі, частая яго змена, разнароднасць інтарэсаў шляхты і сялянства – усё гэта не магло не выклікаць яго паражэння. Простаму беларускаму селяніну, касінеру, гараджаніну ці збяднеламу шляхціцу прапаноўвалі біцца за інтарэсы блізкай, але не сваёй, «чужой Бацькаўшчыны». Сваю ж яшчэ трэба было знайсці і ўсвядоміць, каб потым біцца толькі за яе, не хочучы ніякай іншай. Усведамленне гэтага прыйдзе да лепшых сыноў Беларусі ўжо толькі ў XIX стагоддзі.

Апошнім сумным акордам XVIII стагоддзя стаў трэці падзел Рэчы Паспалітай 1795 года. Цяпер ужо ўсе беларускія землі былі праглынуты Расійскай імперыяй.

# VIII

Уключаная ў склад Расійскай імперыі Беларусь хутка перажыла новае ваеннае спусташэнне. У 1812 годзе яна стала тэатрам знішчальнай вайны французскай арміі Напалеона супраць Расіі. Дзясяткі тысяч беларусаў былі рэкрутаваны ў расійскія палкі, аднак частка насельніцтва, кіруючыся прынцыпам «вораг майго народа – мой прыяцель» і спадзеючыся на адраджэнне Вялікага Княства Літоўскага, падтрымалі Напалеона. Летам 1812 года тут утварыліся свае ўзброеныя сілы ў дапамогу французам – 4 палкі конніцы і 5 палкоў пяхоты. Іх мабілізацыяй займаўся Вайсковы камітэт, у які ўваходзілі Ігнат Тышкевіч, Аляксандр Хадкевіч, Аляксандр Пацей, Павел Сапега ды іншыя вядомыя людзі краіны. Прайграўшы кампанію, французы адступалі зноў праз Беларусь – спустошаны і выпалены край, жыхары якога паміралі ад тыфусу, цынгі і халеры. Беларускія сяляне, якія пакутавалі найбольш, уздымалі бунты, аднак царскі ўрад жорстка распраўляўся з іх рухамі.

У лістападзе 1830 года ў Польшчы пачалося нацыянальна-вызваленчае паўстанне. У красавіку 1831 года яно ахапіла Заходнюю Беларусь (Ашмянскі, Свянцянскі, Браслаўскі паветы Віленскай губерні, Вілейскі і Дзісненскі паветы Мінскай губерні). Атрады налічвалі па 200–300 чалавек, некаторыя да тысячы і больш. У іх склад уваходзілі прадстаўнікі польскага, а таксама паланізаванага беларускага дваранства, каталіцкае і ўніяцкае духавенства, сяляне, якія спачатку прымкнулі да паўстання, але, убачыўшы, што кіраўніцтва апошняга не ставіць у сваёй праграме адмены прыгоннага права, адышлі ад барацьбы.

Павятовыя паўстанцкія ўрады аб'яўлялі рэкруцкія наборы ў паўстанцкае войска. Так, у Вілейскім павеце кожныя пяць душ мужчынскага полу павінны былі паставіць аднаго пехацінца, узброенага «стрэльбай, пікай, касой ці сякерай» і добра абмундзіраванага, а кожныя 20 душ – аднаго кавалерыста з дзідай. Кожны шляхечы двор павінен быў паставіць аднаго ўзброенага кавалерыста. Толькі ў Свянцянскім і Вілейскім паветах меркавалася стварыць 15-тысячнае войска.

У Віленскай і Мінскай губернях з-за няўзгодненасці дзеянняў паўстанцкіх атрадаў, адсутнасці адзінага камандавання паўстанне ў канцы мая 1831 года прыйшло ў заняпад. Дробныя паўстанцкія атрады былі разбіты, шмат паўстанцаў забіта, паранена, узята ў палон, шмат дызерціравалі.

Летам 1831 года каля Вільні адбыўся рашучы бой паміж паўстанцамі Літвы, Беларусі і Польшчы і царскімі войскамі. Паўстанцкія атрады, якія не мелі адзінага кіраўніцтва, добрай зброі, былі разбіты.

Ва Усходняй Беларусі (Магілёўскай і Віцебскай губернях), дзе быў значна меншы працэнт каталікоў, чым у Заходняй Беларусі, паўстанцкі рух не набыў значных маштабаў.

На пачатку жніўня 1831 года шляхецкае паўстанне было падаўлена ў асноўным ва ўсіх паветах Беларусі. У краіне надоўга запанавала рэакцыя царызму. Быў закрыты Віленскі ўніверсітэт, ліквідавана мноства школ, забаронены славуты Літоўскі Статут – кодэкс права беларуска-літоўскага гаспадарства. А ў 1839 годзе была скасавана царкоўная унія – беларусаў уніяцкага веравызнання гвалтам перавялі ў праваслаўе.

Аднак ідэі вызвалення ад чужога панавання не памерлі. Праз колькі дзесяцігоддзяў жыхары Беларусі паўсталі супраць расійскага царызму трэці раз.

У студзені 1863 года, калі ў Польшчы пачалося нацыянальна-вызваленчае паўстанне супраць расійскага панавання, яно хутка ахапіла таксама тэрыторыю Беларусі і Літвы. Тут пачалі ўтварацца першыя паўстанцкія атрады пад кіраўніцтвам К.Карэва, Л.Нарбута, Ф.Віславуха і іншых. Яны складаліся з дробназямельнай польскай і беларускай шляхты ды рамеснікаў. Напачатку ў паўстанні на Беларусі брала ўдзел і частка сялян. Часовы ўрад Літвы і Беларусі, у якім галоўную ролю іграў К.Каліноўскі, ставіў на мэту масавае народнае паўстанне, вёў актыўную прапаганду сярод сялян ідэй вызваленчай барацьбы. Аднак падняць палітычна нясмелыя сялянскія масы на арганізаваную ўзброеную барацьбу супраць царызму кіраўнікам паўстання не ўдалося.

Атрады, якімі кіраваў паплечнік К.Каліноўскага В.Урублеўскі, вялі паспяховыя баі з царскімі войскамі. Дзякуючы дзейнасці К.Каліноўскага і В.Урублеўскга ў Гарадзенскай губерні апошняя стала цэнтрам паўстанцкага руху на Беларусі. У Мінскай губерні змагаліся атрады пад кіраўніцтвам С.Ляскоўскага і А.Трусава. Паспяхова дзейнічаў на Брэстчыне атрад Р.Траўгута.

І ўсё ж на пачатку XX стагоддзя, калі Расійская імперыя затрашчала ад нацыянальных і рэвалюцыйных рухаў, знясіленая Беларусь здолела паўстаць да вызваленчай барацьбы і ўласнага дзяржаўнага будаўніцтва.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
25 ЧЭРВЕНЯ 2019 г.

МАРШРУТЫ

# Осенью из Минска отправится чартер в Португалию

*Туроператор «АэроБелСервис» организует чартер в Фару с 21 сентября по 1 октября 2019 года. Рейс осуществит авиакомпания «Белавиа», борт – «Боинг 737–800». Это первая попытка белорусского рынка наладить чартерную перевозку в Португалию.*

Те белорусы, которые хотели побывать в этой стране, до сих пор обычно пользовались обходными путями, чаще всего рейсом авиакомпании Ryanair из Варшавы в Фару, пишет .toursoyuz.by. Все остальные дороги еще более непростые: из Вильнюса прямого рейса нет, а полеты через Италию и Испанию требуют стыковочного времени. Некоторые отправлялись к самой западной точке Европы долгим и достаточно утомительным путем – на автомобиле. Тем не менее Португалия – страна с богатым историческим наследием и удивительными природными красотами, родина великих мореплавателей – давно уже привлекает белорусов.

Нынешней осенью у наших туристов будет возможность попасть в Португалию с комфортом из Национального



аэропорта «Минск». Как сказал директор по туризму туристической компании «АэроБелСервис» **Александр Бурдейко**, если пробный рейс будет удачным и направление понравится туристам и агентам, в следующем году туроператор предложит полноценную чартерную цепочку из Минска. Пакетные цены на сентябрьский рейс «АэроБелСервиса» вскоре появятся на сайте компании.

Фару – это столица региона Алгарве – пляжного рая Португалии. Основные курорты региона – Албуфейра, Портимау, Карвоэйро, Армасау-де-Пера, Виламоура, Алвор, Лагуш, Тавира и другие. Западная часть побережья Алгарве славится удивительными по красоте скалистыми пляжами, на востоке пляжи пологие, широкие, с прекрасным мелким песком. Понравится Алгарве поклонникам активного отдыха, здесь популярны гольф, теннис, все водные виды спорта, а также верховая езда. Ну и, безусловно, в регионе есть что посмотреть любителям экскурсионных поездок: замок из красного камня Силвеш, старый район города Лагуш, многочисленные природные чудеса. Также в Алгарве можно заняться дайвингом, отправиться на прогулку на яхте, побывать на корриде, посетить Марокко.

Что касается погоды, то климат в Алгарве очень мягкий на протяжении всего года. Вода в океане самая теплая в августе и сентябре – 24–25 градусов. Так что купание будет весьма комфортным.

**На фото: пляж Praia Da Rocha.**

ПРОТЕСТ



# Четверть миллиона чехов в Праге требуют отставки премьера

*Андрея Бабиша обвиняют в мошенничестве при распределении субсидий ЕС. 26 июня в парламенте Чехии пройдет голосование о недоверии премьеру. Протесты 23 июня – крупнейшие со времен «бархатной революции».*

На массовые акции протеста в Чехии против премьер-министра республики Андрея Бабиша выходит все больше участников. От 250 до 300 тысяч человек вышли на улицы Праги с требованием отставки чешского премьера, заявили инициаторы акции – гражданское объединение «Миллион мгновений за демократию». Таким образом демонстрация в воскресенье 23 июня стала крупнейшей со времен «бархатной революции» 1989 года.

26 июня в парламенте Чехии состоится голосование о недоверии Бабишу. Оппозиция признает, что шансы на успех невелики, однако подчеркивает значимость «морального жеста».

Массовые акции протеста против действующего главы правительства и бывшего предпринимателя Андрея Бабиша начались в конце апреля. Его обвиняют в мошенничестве при распределении субсидий Евросоюза в пользу холдинга Agrofert.

Изначально субсидии были предназначены для поддержки малых предприятий. Сам мультимиллиардер отрицает конфликт интересов и называет дело политически мотивированным, отвергая предложения о переговорах.

Ранее некоторые чешские СМИ опубликовали аудиторский доклад Еврокомиссии. Из него следует, что ЕС может потребовать вернуть до 17,4 млн евро, которые были выданы в качестве субсидий фирмам, связанным с премьером Чехии. Бабиш раскритиковал доклад, заявив, что документ содержит «признаки атаки» на него.

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

# Сбор за пользование немецкими автобанами незаконный



© picture-alliance/C. Ohde

Инициатива о взимании с владельцев легковых автомобилей сбора за пользование немецкими трассами является дискриминирующей и противоречит законодательству Евросоюза, счел суд ЕС.

Новый сбор планировалось ввести в ФРГ в октябре 2020 года. Немецкие власти хотели обязать (через наклейку на стекле) всех автолюбителей платить за проезд по автобанам. При этом немецким автомобилистам государство обещало компенсировать расходы, снизив ежегодный автомобильный налог на сумму, соответствующую стоимости ежегодной наклейки.

Планы Берлина, однако, встретили сопротивление соседних стран. В октябре 2017 года Австрия подала иск в суд ЕС против Германии. К жалобе Австрии присоединились и Нидерланды. И вот суд ЕС признал сбор за пользование немецкими автобанами незаконным.

# В Берлине заморозят арендную плату за съемное жилье

Срок предполагаемой заморозки – 5 лет, и она не коснется социального жилья и новостроек. Нарушителям может грозить штраф до 500 тысяч евро.

Еще в апреле в Берлине и еще 18 городах Германии прошли акции против растущей арендной платы за квартиры. В них приняли участие в общей сложности десятки тысяч жителей. 14 июня в Берлине активисты передали местным властям подписи 77 тысяч человек, требующих провести в столице референдум об экспроприации квартир у крупных собственников. Дело в том, что больше половины немцев предпочитают снимать жилье – в первую очередь потому, что они хотят оставаться мобильными. Самые популярные – малоквартирные дома. Таких строится в последние годы больше всего.

Берлинский сенат на днях согласовал ключевые вопросы, и предложения должны вынести на голосование в сенате Берлина до середины октября. Нововведения затронут около 1,6 миллиона объектов недвижимости, за исключением новостроек и социального жилья.

Ожидается, что соответствующий закон вступит в силу не позднее января 2020 года

# Чем немецкие дети занимаются на каникулах



© picture-alliance/Design Pics

Особенно остро этот вопрос стоит во время летних каникул, которые в среднем длятся шесть с половиной недель.

Впрочем, выбор у немецких родителей есть. Проведя неделю-две на море с ребенком, они могут организовать интересное времяпровождение для него на оставшиеся недели. Летние лагеря, по-немецки «Ferienlager», существуют по всей стране. Организаторами выступают сами школы, церковные общины, спортивные общества, фермерские подворья, различные добровольные объединения, коммерческие структуры... Например, десять дней на ферме с развлекательной программой, кормлением животных, верховой ездой и так далее обойдется примерно в 300 евро на ребенка. Можно даже летом покататься на повозке, в которую запряжены сибирские хаски, и узнать много интересного об этой породе собак. Это будет стоить примерно 450 евро на человека. В стоимость входит проживание в деревянном домике, экскурсии в регионе, развлекательная программа в течение недели.

Однако далеко не все родители готовы отправить своих детей с ночевкой на ферму или в лагерь, которые расположены далеко от дома. Различные летние курсы можно найти и в городе. Например, неделя на курсах актерского мастерства стоит 60 евро.

ПОД ГРАДУСОМ

# В Европу идет экстремальная жара из Сахары

*Власти Парижского региона обнародовали сигнал об интенсивной жаре, которая ожидается во французской столице и во всей Европе на этой неделе.*

Об этом сообщает «Европейская правда» со ссылкой на AP.

Уровень тревоги в Париже подняли до «оранжевого», предшествующего наивысшему.

По сведениям французского национального погодного агентства Meteo France, жара продлится до конца текущей недели, температура будет достигать +40 градусов по Цельсию по всей стране. Пик ожидается в четверг.

В Париже благотворительные организации работают над тем, чтобы обеспечить водой бездомных, и проверяют, есть ли у местных органов власти места, где они могут найти убежище.

Метеорологи утверждают, что жара вызвана горячими ветрами, поступающими из пустыни Сахара.

Систему оповещения ввели во Франции после того, как летом 2003 года было зафиксировано 15 тысяч смертельных случаев, связанных с перегревом.

В прошлом году экстремальная жара вызвала самый серьезный за 40 лет овощной кризис в ЕС.

ГІСТОРЫЯ АДНАГО ФОТАЗДЫМКА

# Вяселле падчас акупацыі

*Гэтае фота зроблена ў 1942-м ці 1943 годзе на акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі ў Вялікай Бераставіцы Гродзенскай вобласці. Фота з сямейнага архіва Асі Валькові. На здымку яе бабуля быццам бы ў вясельным строі, але жаніх побач з ёю – не Асін дзед. Так адкрылася таемная гісторыя сям'і.*

*Ася Валькові распавядае:*

– У вайну падчас акупацыі хадзілі чуткі, што жанатых не вывозяць на працу ў Нямеччыну. Мая бабуля Раіса Ярмізіна і яе кавалер Кастусь вырашылі ажаніцца. Яны ўзялі шлюб у царкве Вялікай Бераставіцы. У гэты дзень і быў зроблены фотаздымак.

Аднак Кастусь усё ж такі трапіў у Германію. Бабулі маёй пашчасціла, яна адносна спакойна перажыла ўсю акупацыю дома. Пасля вайны сустрэла майго дзеда і зразумела, што першы шлюб быў памылкай.

Кастусь, дзякуй Богу, ацалеў і вярнуўся ў Беларусь. І ён, і мая бабуля завялі новыя сем'і, нарадзілі дзяцей. Але бабуля, як глыбока веруючы чалавек, увесь час страшэнна перажывала, што парушыла таямніцу шлюбу. Таму і не расказвала дзецям, што іх тата – яе другі муж, але захоўвала некалькі фотакартак, звязаных з маладосцю, Косцікам і іх вяселлем… Што гэта за малады чалавек на старых фотаздымках, я зразумела, толькі даведаўшыся ўсю сямейную гісторыю…



**P.S.** Здымак у «Народную Волю» прадастаўлены аўтарамі ініцыятывы «Веха» (VEHA, http://veha.by/), якая існуе дзеля таго, каб захоўваць старыя фотаздымкі беларусаў. Удзельнікі «Веха» збіраюць калекцыі архіўных фотаздымкаў, праводзяць выставы, выдаюць кнігі па этнаграфіі. У рамках ініцыятывы праводзіцца адукацыйны курс, дзякуючы якому кожны чалавек можа зрабіць кнігу гісторыі сваёй сям'і. Менавіта падчас такога курса Ася Валькові і даведалася пра гэтую таемную гісторыю сваёй сям'і.

«*Фотаздымкі – гэта неацэнная інфармацыя для разумення нашай ідэнтычнасці і еднасці*, – кажа каардынатар ініцыятывы **Леся Пчолка**. – *Яны дазваляюць нам зразумець, як выглядалі нашы продкі, як і чым яны жылі*».

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

# Грузия не сдается…

*Авторитетная неправительственная организация «Международная прозрачность – Грузия» провела исследование, чтобы выяснить возможные потери Грузии от «туристического эмбарго» со стороны России.*

*В организации заявляют, что в том случае, если Россия с 1 июля полностью закроет с Грузией границу и ни один российский турист не приедет, потери составят сто миллионов долларов.*

При этом в НПО заявляют, что это не играет решающей роли в экономике в целом и в перспективе российское эмбарго должно подтолкнуть к более активному освоению европейского рынка.

«Мы должны активизироваться по другим направлениям. Если до этого у нашего департамента туризма Россия считалась стратегическим рынком – в этом направлении было много рекламы, то сейчас этот ресурс должен быть распределен на другие страны», – заявляет Бесо Намчавадзе, экономист НПО «Международная прозрачность – Грузия» в интервью телекомпании «Рустави-2».

Как уже сообщалось, правительство России с 8 июля запретило авиасообщение с Грузией и своим, и грузинским авиакомпаниям. Такое решение было принято на фоне разразившегося в Тбилиси скандала из-за приезда российской делегации парламентариев на межпарламентскую ассамблею православия и появления депутата Госдумы в кресле грузинского спикера. Это спровоцировало массовые протесты, участники которых требуют отставки тех членов грузинского правительства, которые допустили приезд российской официальной делегации и ее прием в высшем законодательном органе. Участники акций протеста уже четыре дня выходят на улицы перед парламентом с плакатами, где напоминают, что Россия оккупировала 20% территории Грузии.

Грузия разорвала дипломатические отношения с Россией в 2008 году, после военных действий и признания Москвой независимости Абхазии и Цхинвальского региона (Южной Осетии). Эти территории также официально объявлены в Грузии оккупированными.

Это признает ООН и большинство стран в мире, за исключением России, Венесуэлы, Никарагуа, Науру и Сирии. В 2011 году в этот список входили еще два островных государства – Тувалу и Вануату. Впоследствии эти два островных государства установили дипломатические и консульские отношения с Грузией, что де-факто влечет за собой аннулирование признания территорий, считающихся неотъемлемой частью страны.

КАЛЕЙДОСКОП

# Корабль-госпиталь ВМС США вновь вышел на помощь венесуэльцам

*Неделю назад плавучий госпиталь Военно-морских сил США Comfort вышел в пятимесячный поход для помощи странам Центральной и Южной Америки и Карибского бассейна, в том числе приютившим венесуэльских беженцев.*

«Команда корабля совместно с медицинскими работниками принимающих стран окажут помощь тысячам венесуэльских эмигрантов и беженцев», – сказал командующий Южным командованием Вооруженных сил США адмирал Крэйг Фаллер.

На днях вице-президент Соединенных штатов Майк Пенс с супругой побывали в Майами, первом порту посещения на пути корабля-госпиталя в Эквадор. Майк Пенс отметил: «В течение следующих пяти месяцев команда корабля Comfort продолжит предоставлять помощь нуждающимся, особенно тем людям, в том числе детям, кто пострадал от не имеющих прецедентов кризиса и репрессий в Венесуэле».




Это семнадцатый поход корабля в регион. Comfort сделает остановки в Колумбии, Коста-Рике, Доминиканской Республике, Эквадоре, Гренаде, Гаити, Ямайке, Панаме, Сент-Люсии, Сент-Китс и Невисе, Тринидаде и Тобаго. В каждом из портов корабль-госпиталь пробудет шесть дней.

Группа медиков будет работать как на борту корабля, так и в медицинских учреждениях в странах посещения, проводить сложные операции, в том числе на глазах, оказывать стоматологическую помощь. В команде есть даже специалисты-ветеринары.

Народная Воля http://www.nv-online.info
25 ЧЭРВЕНЯ 2019 г.

З ЮБІЛЕЕМ!

## Ад рэдакцыі

Вось ужо і Віктару Карамазаву – 85.

Не прыхільны да розных юбілейных урачыстасцяў і абвестак, ён завітаў напярэдадні свайго знакавага дня ў рэдакцыю «Народнай Волі» і паклаў на рэдакцыйны стол старонкі сваёй новай аповесці, на гэты раз – пра народнага мастака Беларусі Міхаіла Савіцкага. Ужо не маючы часу зрабіць з пісьменнікам разгорнутае інтэрв'ю, мы паспелі спытаць у яго, як яму цяпер, у шаноўным узросце, жывецца і пішацца. У добрым настроі ён сказаў:

*– Жыву як на арэлях. Душа то падкідае ўгору, дзе шмат святла і чыстага паветра, то абрынецца ў змрок і сум, як у яму. Гэтак, здаецца мне, жыве ўся наша сённяшняя літаратура. А як працуецца за сваім пісьмовым сталом, як пішацца? Не гэтак, вядома, як у маладзейшыя гады, але не горш. Раней літаратуру любілі і шанавалі болей народ і ўлада, працу пісьменніка падтрымлівалі матэрыяльна, за творы аўтар меў добрыя ганарары. Пісьменнік працаваў больш і хутчэй, але, спяшаючыся па ганарар, каб жыць бязбедна, над сваім творам доўга не карпеў і часта выдаваў сырэц, твор недапечаны. Цяпер напісаны мастацкі твор, нават і добры, выдаць цяжка, як надрукуеш, выдасі – ніхто не плаціць за яго, як за нялёгкую сумленную працу, ён быццам нікому не патрэбны. Гэтакі стан грамадства – духоўны крызіс. І я ўжо не спяшаюся друкаваць свой новы твор. Жыццё з пустой кішэняй ускладняецца, але гэтая мая бяда на карысць твору – над ім даўжэй працуеш, ён, гэтакі, больш дасканалы, не сырэц. Ён ужо як бы жыве сваім жыццём, ад мяне незалежным, радуючыся маёй пустой кішэні.*

***– Што ж атрымліваецца? Калі пісьменніка давесці да стану жабрака ці бамжа, у нас тады з'явіцца раман, мацнейшы за «Вайну і мір»? Новая беларуская сенсацыя?***

*– Магчыма. А пакуль што літаратурны ганарар выплачваю сабе сам. Да ранейшага свайго юбілею напісаў і выдаў раман «Мастак і парабкі», як кажуць, лепшы з маіх раманаў, атрымаў за яго інфаркт міякарда – адлежаў восем сутак у рэанімацыі. Пазней зрабіў сабе не горшы падарунак: новую аповесць «Зямля Фердынанда» і новы дыягназ – мерцацельная арытмія з вялікай небяспекай… няма ахвоты тое слова вымаўляць. Цяпер – зноў юбілей і новая аповесць: пакуль умоўна – «Ноч». Што атрымаю за яе – яшчэ не ведаю. Пакуль што, дапрацоўваючы твор, думаю пра яго героя, вялікага нашага мастака Міхаіла Савіцкага: Божа, які жахлівы лёс ты яму даў, не толькі той, што вынес ён у час вайны, у Бухенвальдзе і Дахау, але і да апошняга пражытага ім дня – да дошчачак труны!*

...Размова з Віктарам Філімонавічам Карамазавым, даўнішнім сябрам «Народнай Волі», мела працяг. Але паступова з мінорнага ладу яна перайшла на больш мажорны. І мы рады, што ў вядомага пісьменніка, які адзначае сваё 85-годдзе, яшчэ шмат творчых задум. Дык пажадаем яму добрага здароўя і далейшай плённай працы!

# Віктар КАРАМАЗАЎ

# Ноч

Ніколі раней не думаў, каб пераступіць гэтую агняную мяжу, не меў гэтакага жадання і напісаўшы аповесці пра мастакоў Бялыніцкага-Бірулю, Жукоўскага, Бархаткова, Вашчанку, у той працы набыўшы немалы досвед, як увайсці ў творчы свет мастака, жывога або нябогі, заўсёды загадкавы, не кожнаму даступны, а то і небяспечны няпрошанаму носу ці воку, як паяднаць яго, чужы, са сваім уласным творчым. Савіцкі бачыўся за той мяжой, хоць дом чырвоны дзе ў два, дзе ў тры паверхі з акадэмічнымі майстэрнямі, названы іранічнымі калегамі «дотам Савіцкага», стаяў праз вуліцу насупраць майго пяціпавярховіка і вокны мае кватэры глядзелі на яго высокія вокны. Але аднойчы ўзімку, калі там, на скрыжаванні вуліц Коласа і Някрасава, мае сляды ўшчэнт затапталі іншыя мінчукі, бо жыў я ўжо ў іншым раёне сталіцы, прывабіла афіша з копіяй «Партызанскай мадонны», запрашала на выстаўку ў Мастацкі музей, і я падняўся на яго белую галерэю.

Жывапіс Савіцкага прываблівае мяне, прызнаюся адразу, заўсёды, і мне здавалася, што бачыў я амаль усё, ім напісанае, што ў арыгіналах, іншае ў рэпрадукцыях па каталогах, альбомах. Але на выставе, прысвечанай васьмідзесяцігоддзю мастака, мяне сустрэлі нібыта новыя палотны ў масіўных рамах. Уражвала найперш не колькасць іх, хоць і гэта, як у мастака старога, здзіўляла, а ранейшы, як у гады маладыя, тэмперамент ваяра і філосафа, вострыя, смелыя вока і думка, бескампраміснае вобразнае выяўленне жыццёвай праўды. Зноў ды зноў я падыходзіў да карцін «Дзень Перамогі», «Рэквіем», «Плач па зямлі», «Забароненая зона», «Крыж надзеі», «Эвакуацыя», «Настальгія», «Доля», «Убранае поле», «Малітва Іовы», «ХХ век. Забойства праўды» і адысці ад іх не спяшаўся. Вярнуўшыся да свайго рабочага стала з адчуваннем, што моцна падзарадзіў свае творчыя акумулятары, рашуча сеў за новы рукапіс, але перанастроіцца на яго было цяжка. Адшукаў стары блакнот, у ім – забыты нумар тэлефона і, не ўпэўнены, што дазванюся, бо тэлефонныя нумары час ад часу мяняюцца, на авось набраў тыя лічбы. Трубка маўчала. Адняў яе ад вуха, каб пакласці на апарат, дзе яе месца, але штосьці там зашкраблося – прыклаўся зноў:

– Ало?.. Ало?!.

Пачуў слабы, як з таго свету, голас:

– Ну што яшчэ вам трэба ад мяне?

Быццам апёкся: каму званю? Зноў сунуўся вачыма ў блакнот: усё тое, што шукаў, імя і прозвішча, нумар тэлефона, год запісу – 1967. Даўно было? У той час я працаваў у «Звяздзе», галоўнай беларускай газеце, ладзіў рэдакцыйную сустрэчу з яшчэ маладым мастаком Міхаілам Савіцкім, кветкі яму ўжо стаялі ў прыгожай вазе на стале, але ў апошні дзень перад сустрэчай галоўны рэдактар паклікаў мяне да сябе і сказаў даволі афіцыйна, што ў Саюзе мастакоў адбыўся таварыскі суд (была гэтакая форма ідэйнага выхавання), калегі па мастацтве асудзілі Савіцкага за тое, што карціну «Партызанская мадонна» ён напісаў як сакральны твор, паставіў у яго, як у ікону, савецкую жанчыну, што ЦК партыі з прысудам згодны і таму сустрэчу трэба адмяніць. Я спрабаваў давесці, што ў Маскве на ўсесаюзнай выставе «Партызанская мадонна» ацэненая як шэдэўр, ужо набытая Траццякоўскай галерэяй, але рэдактара не пераканаў: «У нас ёсць ЦК, і Траццякоўка нам не ўказ».

Той успамін надаў рашучасці ў размове з мастаком:

– Ало!.. Ало!..

Нарэшце:

– Вы мне яшчэ не ўсё сказалі? Кажыце. Я слухаю.

А што казаць, адчуўшы, што чалавеку я ці злыдзень, ці нейкі правакатар? Маўчу. Тут ён сарваўся:

– Пакладзіце трубку і нумар майго тэлефона забудзьце! Або я вас…

Што за кара мяне чакала – не пачуў, бо трубка адарвалася ад вуха, ці, можа, вуха адляцела ад яе, як апяклося. І ўсё ж я выбухнуў – паспеў:

– Махаіл Андрэевіч?! Ды я не той, каго вы вылічылі, я вам не вораг.

Зноў – задушлівае старэчае пакерхванне і нетаропкі, бліжэйшы, голас:

– Як прозвішча вашага бацькі?

Адчуўшы ў пытанні раўнейшае дыханне, цяплейшыя ноткі, нават схільнасць да ўсмешкі, я павесялеў, сказаў і прозвішча, і што жаданне ёсць убачыцца, пагаварыць. З хвіліну трубка ізноў маўчала, але раптоўны выбух кашлю нібы прачысціў горла:

– Цяперашніх пісьменнікаў я не чытаю, берагу час і вочы для сваіх карцін, а братоў Карамазавых ведаю, Фёдара Міхайлавіча чытаў, на жаль, не ўсяго. З павагі да яго магу з вамі сустрэцца, калі не сёння.

Ну, хітруга: з павагі да Фёдара Міхайлавіча?! Я быў у захапленні ад таго, як паспрыяў мне Дастаеўскі, быццам я не менш як сын ці брат самому класіку.

Ужо наступным днём, калі шарэла, я падышоў да чырвонага дома, падняўся на другі паверх і пастукаў у падказаныя вахцёрам дзверы. Не пачуўшы водгуку, пастукаў мацней і, доўга не чакаючы запрашэння, зайшоў у пакой. Там панавалі прахалода, змрок, ціхата, кволае святло сеялася ад вулічнага ліхтара ды снегу за акном. Агледзеўшыся, заўважыў пісьмовы стол, тарцом да акна, за ім у крэсле чалавека. Святлейшай плямай на стале варухнулася рука, над ёю заззяла лямпа, і выявіўся твар, падобны на мазаіку святлейшых жаўтлява-шэрых і цямнейшых ссінела-шэрых плямаў у вянку з цьмянага срэбра, які нагадваў твары ў катоўнях з палотнаў мастака. Бліжэйшае, на мацней асветленай палове твару, вока ўпарта ўглядалася ў мой твар, быццам чагосьці чакала ад мяне. Але загаварыў ён першы:

– Ваш бацька быў настаўнікам літаратуры?

Мяне здзівіла, што гаспадар пакоя адразу пацікавіўся бацькам і што не памыліўся.

– Адкуль вы гэта ведаеце? Мы з вамі першы раз бачымся.

Ён як не пачуў мяне.

– А хто быў дзед па бацьку? Мужык? Араў зямлю?

– І яшчэ варыў з кары вольхі фарбу, кармызін, фарбаваў мужыкам кажухі.

– Рабіў у тых кажухах мужыкоў чырвонымі? – хіхікнуў з'едліва. – Тым працаваў на рэвалюцыю? За зямлю або за ідэю?

– Я ў вёсцы бацькавай не быў, не ведаю.

– Бацька сына ў сваю вёску не звазіў? А чаму?

– Пытанняў гэтакіх дзеці бацькам раней не задавалі.

– Так. Размовы ў дзяцей з бацькамі былі больш строгія, як цяпер. І ўсё ж чаму вы не Кармыз, як дзед, не Кармызін, як фарба дзедава, а як адзін з братоў Карамазавых? Павінен у гэтым дзед ці бацька? А можа, Дастаеўскі?

– Дзед Дастаеўскага не чытаў.

– А кажухі чырвоныя… – Раптам замоўк, як сам сябе падсек, не даказаўшы тое, што ўжо на языку ляжала, падняўся з-за стала, уключыў святло пад столлю, падышоў бліжэй да мяне, глядзеў у твар. – Мае новыя работы? А яны ў музеі на выстаўцы. Яшчэ там не былі?

– Адтуль прыйшоў да вас.

– Таго, што там убачылі, вам мала? – Здзівіўся, але здзіўленне ў вачах адразу пагасіў. – Бывае гэтак і са мною. Глядзіш работы мастака і адчуваеш, што ён не ўсё табе паказвае, штосьці прыхоўвае.

– Не, я на выставе ўбачыў значна больш, як чакаў убачыць. Гэта і прывяло.

– Калі так, то… паліто здымаць не прапаную – у майстэрні халадрыга, сам холаду баюся.

На ім было футра без рукавоў, пад футрам свойскі, таўстога плеціва світар, вакол шыі – ваўняны шалік. Ён шалік пераматаў шчыльней, канцы заткнуў пад футра на грудзях, падышоў да дзвярэй збоку ад стала – яны нас вывелі ў майстэрню.

Пад высокай столлю вялікага пакоя, застаўленага з усіх бакоў падрамнікамі, квола свяціла адзіная лямпачка, у вокнах ужо было зусім цёмна, і я не адразу заўважыў вельмі блізка перад сабой мальберт. Ён кінуўся ў вочы, калі з розных бакоў заззялі іншыя ліхтарыкі, тры ці болей, і ўжо мастак стаяў каля мальберта, рукой трымаўся за шэрае на ім палатно, што пад сабой хавала немалы рагаты падрамнік.

Мастак уважліва сачыў за мной, быццам я быў яму тут небяспечны. Яго напружаную ўвагу я хоць заўважыў, ды не паспеў да канца зразумець, бо палатно нечакана зляцела са станка на падлогу, і перада мною з'явіўся, як жывы, Іосіф Сталін. Яшчэ не так даўно ўзнесены людзьмі ледзь не нароўні з богам і тымі самымі людзьмі абрынуты з высокага падмурка як тыран, як кат, тут нібы з цемры выйшаў на святло ў белым кіцелі пры ордэнах на ўсе грудзі, глядзеў мне ў вочы з цынічна-выскагорнаю ўсмешкай.

Мастак за мной усё сачыў. Хацеў паглядам вострым наскрозь працяць і ў момант стрэсавай сустрэчы з забытым богам прачытаць: што я трымаю да яго ў сэрцы, у думках? Я быў ахвяраю ў вопытнага следчага? Або звычайнай для яго студыйнаю мадэллю?

Я ў яго спытаў спакойна:

– Хто заказаў вам гэтакі партрэт?

– Мне заказала мая памяць.

– Вас могуць абвінаваціць у тым, што славіце тырана.

– Гэта я ўжо чуў. Часцей па тэлефоне. Хто гэтак кажа – сябе не называе. Але я гэтакіх ведаю. Ёсць сярод іх і мастакі, і пісьменнікі. Гэта зламыснікі, зайздроснікі, дылетанты. Чалавек, тым больш мастак, які прайшоў праз тыя лагеры смерці, фашысцкія або савецкія, не можа славіць тырана. Я мастак дваццатага стагоддзя. Яно крывавае, пакутнае, але яно маё. Там мае бухенвальды і ратункі ад іх, а тут, цяпер, у дваццаць першым, толькі мастацкая майстэрня ды я ў ёй, воляю Госпада. Мастак не можа жыць па-за сваім часам, а час свой бачыць не ў гучных дэкларацыях, не ў хлусні ілжывых патрыётаў, а ў мастацкіх вобразах, у жыццёвай праўдзе, якой цяжкою яна б ні была. Чалавек, які бачыць маю карціну, не ведае, як доўга і цяжка я над ёю працаваў, не можа гэта ведаць, бо не перажыў тое, што перажыў я. Так, я аўтар, мая ёсць улада над натурай, над мадэллю, з якімі я працую, жывыя яны ці мёртвыя, але як тая натура, жывая або мёртвая, уплывае на мяне, мастака, на маю душу і памяць, не ведае ніхто, нават іншы мастак, мой калега. Працуючы над «Днём Перамогі», я не адну гадзіну быў у размове са сваім грузінам, размовы былі цяжкія, часам здавалася, што і я, і мой грузін на палатне, у раме, атрымаем інфаркт або інсульт. Аднойчы, была ўжо ноч, дадому не пайшоў, знясілеў, у майстэрні паваліўся і заснуў. Прыйшоў Андрэй, мяне шукаючы: «Што, бацька, з табою?» А ў мяне задышка, хапаюся за сэрца. Ён выклікаў «хуткую дапамогу», а грузіна з мальберта зняў, у старых работах захаваў, аж я шукаў пасля не адзін месяц.

– Гэтага глядач ведаць не можа, і трэба дараваць яму, калі залішне строга судзіць мастака, – разважыў я.

– Дык хай не судзіць, калі сам не мастак. Над мастаком суддзя адзіны. Там! – Ён паказаў пальцам на неба. – Тут, – пальцам паказаў пад ногі, – няма.

Я пагадзіўся з ім:

– Калі мастак не графаман.

– А графаман не ёсць мастак. Калі я выставіў «Вязня», аўтапартрэт у драўляных калодках на нагах і паласатай робе гітлераўскага канцлагера, адзін з маіх калег, дарэчы, у званні народнага мастака, выказаўся, што Савіцкага трэба распрануць і паглядзець, ці ёсць на ім выпалены жалезам нумар вязня, ці меў ён права пісаць гэты аўтапартрэт.

– Я гэта чуў, у іншай форме: хацелі вас завесці па-сяброўску ў лазню, дзе вы самі распрануліся б.

Ён змоўчаў, і я прайшоў да іншага заўважанага мальберта з адкрытай да святла работай. Па сучаснай аўтамагістралі адна за адной імчалі вялізныя, падобныя на чыгуначныя вагоны, машыны, а паўз дарогу, як пад шнур, стаялі ціхія, прыбітыя тым, на дарозе, рухам-громам, але ўжо не саломай крытыя хаціны. З кабін на хаты пазіралі хлопцы-дальнабойшчыкі, а пад акном адной з іх сядзелі тры маладыя мамкі – у кожнай на руках дзіцятка. Мамкі выглядалі зазываламі тых мімалётных, пры добрых заробках хлопцаў, а дзеткі – байстручкамі. Яны, як іх хаціны, існавалі, не ведаючы клопату гаспадара, мужа, бацькі.

– Тут век ужо не дваццаты? – спытаў я ў мастака. – Дзень сённяшні?

– Час на мяжы, памежны, калі адно, што было, не горшае, нават найлепшыя традыцыі, набыткі, знішчаецца, а невядома што ўзыходзіць, нахабна нараджаецца. Час рэвалюцый, войнаў, заўсёды блытае людзям мазгі, пыліць у вочы, спакушае да хлусні, злачынстваў, блуду, нажывы лёгкае. Гэта ў мастацтве – ноч.

– І ноч у літаратуры.

Каля дзвярэй, выходзячы з майстэрні, мастак падняў руку да выключальніка святла, чакаў, як я пераступлю парог, ды я перад парогам затрымаўся, азірнуўся, заўважыў на падлозе пры сцяне яшчэ адну работу: на брукаваным пляцы, абрысамі падобным на куток Нямігі, хістаўся на слабых нагах малады мужчына – у крыві і галава, і рукі, кроў з рук сцякала на булыжнік. Ён углядаўся ў твары людзей, што стаялі вакол яго, да іх працягваў рукі, пытаўся: «А за што?» – чакаў спагады. Усе на яго глядзелі і маўчалі, быццам замарожаныя, ні ў кога не ўзнікала жаданне падысці, каб падтрымаць, абцерці кроў па-хрысціянску як бацьку, сыну, брату.

– Чыя там кроў? – спытаў я ў мастака.

– Стары эскіз. Шукаў народ.

– Шукалі вы? Які народ?

– Свой. Які ж яшчэ? Сённяшні.

– Знайшлі?

Не адказаў, і тым падказваў мне шукаць самому адказы на свае пытанні. Але з майстэрні выйшлі – я зноў падумаў пра эскіз:

– Сюжэт гэты я бачыў раней. Там была кроў паэта. Здаецца, што Ясеніна?

– Мне не галоўнае – Ясенін або Грачанікаў. Мастацкая карціна стварае вобраз часу. Яе мэта вышэйшая. Забілі паэта – гэта ноч. Я гэтак і назваў тую карціну – «Ноч».

Вярнуўшыся ў кабінет, мастак адразу сеў за стол, пачаў штосьці шукаць у тоўстым сшытку. Дзверы адчыніліся – зайшла жанчына, упэўнена, як гаспадыня наблізілася да стала, паклала на сшытак перад мастаком канверт. Ён у яе спытаў, што за канверт, – яна здзівілася:

– Забыліся, які сёння дзень?

– Ах, дзякуй, што нагадала мне пра малако. Палучка – выдатны дзень. Мог і забыць, што трэба, ідучы дадому, зайсці ў гастраном.

– Дома няма грошай на малако? Збяднелі?

– Чаму няма? Ёсць і дома. Няма каму схадзіць па малако.

– Няма ні жонкі маладзейшае, ні сына?

Заўважыўшы яго незадаволенасць пачутым, яна, пэўна, бухгалтарка майстэрняў, кінула вокам на мяне і адвярнулася, як мелася штосьці яшчэ, ёй набалелае, сказаць і не адважылася ў мае прысутнасці, мяне не ведаючы.

Калі ад мастака я выйшаў на вуліцу, было зусім ужо цёмна. За скрыжаваннем спыніўся, пазнаўшы дом, у якім жыў раней. Мае ў той час вокны на другім паверсе танулі ў сінім змроку, але я іх не мог не бачыць – будзілі памяць. Звярнуў у свой калісьці двор, падышоў да першага, з кватэрай нумар шэсць, пад'езда, спыніўся пад балконам. І ў змроку бачыў яго тым самым, якім ён быў, калі былі малымі дзеці, дачка і сын, на ім гулялі, як было цёпла, дачка з лялькамі, а сын з машынкамі. Цяпер мяне тут затрымлівала ціхая, як светлая далёкая мелодыя, настальгія па маладых гадах, але я выйшаў зноў на вуліцу ля «Зорачкі», свайго калісьці гастранома. Раней у ім за ўваходам справа быў піўны бар, заваблівaў, як бег з рэдакцыі дадому, духмяным, з бочак, півам, – спакуса і цяпер прачнулася. Зайшоў, не ўпэўнены, што хмель, як і раней, дасць у нос, здзівіўся: мужчыны з кухлямі за стойкамі стаялі, як тыя, што сюды раней наведваліся, з чырвонымі насамі. І я ўзяў кухаль пад пульхнай шапкай пены, як свой сярод сваіх, да стойкі прымасціўся, з прыемнасцю паміж глыткоў глядзеў, як асядае ў кухлі пена ячмянёвая, і раптам далей у зале, за тою ячмянёвай шапкай, заўважыў мастака. Ён апускаў у торбачку пакет з малаком. З-пад пахі выслізнуў яго кіёк, аб камянёвую падлогу ляснуўся, і за кійком з рук вывалілася разам з пакетам торбачка. Мастак над імі нахіліўся і дацягнуцца да іх рукой не мог, спіна не гнулася. Жанчына падняла яму кіёк і торбачку. Ён пакланіўся ёй раз і другі, агледзеўся, трымаючы ў адной руцэ торбачку і ў другой кіёк, падаўся з гастранома. Калі і я, дапіўшы піва, выйшаў на вуліцу, ён ужо стаяў на святлафоры, чакаў зялёнага святла. Блізка, амаль адразу за пераходам, быў мой тралейбусны прыпынак, але раней, як кінуць у той бок вокам, я зноў заўважыў перад сабою знаёмую спіну ў доўгім чорным паліто, падобным на тое – нечакана ўспомніў, – што было ў доктара Чэхава: бачыў яго ў музеі ў Ялце.

На ноч браўся марозік, пад ногі падсыпаў дробны сняжок, небяспечнай каўзаты як быццам не было, але крок за крокам стары рабіў з асцярогаю, кійком загадзя абмацваючы перад сабой дарогу, нібы мінёр мінашукальнікам, і тая яго абачлівасць вяла мяне следам за ім – я ўжо не думаў пра свой тралейбусны прыпынак. Мастак жыў непадалёку на зацішнай Беламорскай вуліцы ў сваім асабняку, усе тут сцежкі ведаў, і тое, што з вуліцы звярнуў за дом шматпавярховы ў двор, далей пакрочыў напрамкі па свежым нетаптаным снезе, не здзівіла. Аднак на рагу наступнага шматпавярховіка ён раптам спыніўся, пагрукаў кіем перад сабой у лёд пад свежым снегам і абедзьвюма рукамі, не выпускаючы з іх кій і торбачку, ухапіўся за вадасцёкавую бляшаную трубу. Яшчэ не пакаўзнуўшыся, адчуў небяспеку, бо ведаў, што тут, пад трубой, узімку амаль заўсёды лёд і на няўлежана-падманлівым снезе можна пакаўзнуцца. Я таксама спыніўся крокаў за дзесяць ад яго, не жадаючы трапляць на вочы, развітаўшыся ў ягоным кабінеце, але цяпер, убачыўшы, як ён хістаецца з трубою ў руках, як ад яе баіцца адарвацца, падышоў бліжэй, узяў пад руку. Ён павярнуў да мяне галаву, удзячна ўсміхнуўся, трубу з рук выпусціў. Пазнаў мяне ці не пазнаў? Як адышлі ад дома, спыніўся і сказаў:

– Бывае, што і на добрага чалавека пашанцуе, як той вароне на сыр. Тут я аднойчы пікірнуў у лёд галавой, а труба ўсё да сябе прыцягвае, як нейкі магніт. З аднаго боку, цвяроза думаючы, гэтае месца лепш абысці, а з другога боку, спадзяешся, што труба, калі паспееш за яе схапіцца, уратуе. Гэтак у жыцці ўсё правяраеш на вернасць і на здраду.

– А вы філосаф, – прамовіў я.

– Калі гэта праўда, то не ад вялікага розуму. Бяда ўсіх філосафаў у тым, што яны не прагматыкі, ігнаруюць рызыкоўны вопыт. Іх трэба выпрабоўваць на лёдзе і на маёй трубе. Ха-ха?!. – Ажно ўвесь закалаціўся ад смеху.

Тут ён мяне ізноў здзівіў прыемна, аж да слязы ў воку, тым, як нечакана мяняліся яго настроі, як боязь спікіраваць на лёдзе дала яму і повад, і ахвоту пасмяяцца з філосафаў і з сябе самога.

Я не выпускаў яго рукі, трымаў пад локаць, і гэтак мы з ім дайшлі да асабняка. Там ён дастаў з унутранай кішэні паліто знаёмы мне блакітны канверт, пачаў у ім поркацца. Я здагадаўся, што шукае:

– Не-не, навошта?!

– Я вам удзячны.

– Я вам таксама. Мы весела ішлі. Спакойнай ночы.

Адышоўшы, я азірнуўся. Мастак ужо стаяў з торбачкай у руцэ каля сваіх дзвярэй, спінай да іх, глядзеў у мой бок. Цяпер я быў упэўнены, што не пазнаў мяне. Таму, магчыма, што ў кабінеце і ў майстэрні я быў пры акулярах на носе, а на вуліцы, дзе ў твар ляцеў і шкельцы запарушваў снег, акуляры зняў, сунуў у кішэню і ўжо не надзяваў.

Ды і была ўсё ж ноч, а вочы ў мастака былі даўно не маладыя, на фарбах спрацаваныя…

ВЕДАЙ НАШЫХ!



# ПІЯНІСТ

*Імя **Віталя Стахіевіча** даволі часта мільгае на нашых афішах. Пры тым што апошнія 15 гадоў зорны выпускнік Беларускай акадэміі музыкі жыве і працуе ў Амстэрдаме. Там у яго сям'я, дзеці, а яшчэ – вучні ў кансерваторыі і шчыльны гастрольны графік. **«Я, дарэчы, не планаваў там заставацца. Думаў, скончу магістратуру, набяруся ўражанняў і вярнуся дадому»**, – успамінае піяніст.*

– У гэтым сэнсе я вельмі сентыментальны чалавек. Думаю, па мне заўважна, так?

**– Прынамсі, беларуская мова ў вас віртуозная!**

– Гэта сілкаванне яшчэ ад бабуль-дзядуль. Як канікулы – нас на вёску, на Палессе. Мова там жыве так, як яна і павінна жыць.

**– Як моўнае пытанне вырашаецца са сваімі дзеткамі?**

– Часам чытаем па-беларуску, размаўляем. Але, не буду хаваць, кола нашых знаёмых пераважна рускамоўнае. Ды нават у Мінску даволі цяжка знайсці беларускамоўную штодзённасць.

**– На Захадзе вы выступаеце як беларускі піяніст?**

– Я ўвогуле жыву ў беларускай інфармацыйнай прасторы. Сачу ў інтэрнэце за навінамі, у курсе ўсіх падзей. Ведаю, якія канцэрты ў філармоніі, што адбываецца ў Вялікім тэатры.

### Проста фартэпіяна

**– Апошнім разам у Мінску вы выступалі з нідэрландскай спявачкай Рут Вілемсэ і салісткай нашага Вялікага Таццянай Гаўрылавай. Такі, я сказала б, джэнтэльменскі крок…**

– Атрымліваецца, што я сышоў у цень? Але ў кожным рамансе нашай праграмы мая роля – раўназначная. Хаця афіша мяне насмяшыла: насупраць дзяўчат – сапрана, мецца-сапрана. А насупраць мяне напісалі «партыя фартэпіяна». Ну якая яшчэ партыя? Проста фартэпіяна!

**– Пару месяцаў таму вы выдалі з Рут Вілемсэ альбом, на які збіралі сродкі ў інтэрнэце. Людзі ахвотна ахвяруюць на класіку?**

– Увогуле, гэта быў даволі старамодны праект. Бо наўрад ці сёння дыскі карыстаюцца нейкім попытам. Але альбом выбухнуў, нашай раскруткай займаўся вядомы лэйбл, выйшлі рэцэнзіі, запісы трапілі ў эфір галандскага радыё. Каб сабраць грошы, цягам месяца мы кожны дзень працавалі на розгалас. Ігралі нават на цэнтральнай станцыі! Увогуле, вы можаце ўявіць, колькі музыкантаў збіраюць у інэрнэце грошы на свае праекты? Так што я меў пэўны скепсіс і нават здзівіўся, калі ўсё атрымалася. За месяц мы сабралі пад восем тысяч еўра.

**– Вырашылі не эканоміць?**

– Мы хацелі зрабіць усё па-даросламу. Працавалі ў вельмі дарагой студыі на поўдні Галандыі. Такая вялікая адрына (калісьці гэта была ферма), усё з дрэва, навокал палі. Шыкоўная акустыка, цудоўны раяль, знакаміты гукарэжысёр. Я мог толькі марыць пра такую раскошу. Скажам, на свае сольныя праекты я звычайна шукаю студэнтаў, якія займаюцца гуказапісам.

### Мінск– Амстэрдам

**– У Мінск вы прыязджаеце некалькі разоў на год. Што звычайна радуе, а што стамляе?**

– Гэта супер, калі заходзіш у тэатр, кансерваторыю, і бачыш там знаёмых людзей, якія табе шчыра радуюцца. Што засмучае? Не стрымаюся: на нашых вуліцах вельмі многа мату. Гэта моцна бянтэжыць.

**– У Амстэрдаме ўсё з усмешкай і ветліва?**

– Людзі розныя. Але штодзённыя зносіны – гэта стандартны пазітыў, што цяпер не ў беларускай традыцыі. Бо, нават калі ў цябе не вельмі добры настрой, каму гэта цікава?

**– Са студэнтамі вы таксама на пазітыве?**

– Мне здаецца, галоўнае – патлумачыць, у чым сэнс праблемы. А для гэтага не абавязкова жорсткая форма. Важна, каб была матывацыя. Так, я далікатны настаўнік.

**– Хто вашы студэнты?**

– Я працую канцэртмайстрам у класе флейты і скрыпкі, а яшчэ выкладаю абавязковае фартэпіяна. Цікава, што ў нас мала галандцаў. Вучацца людзі з розных краін Еўропы і нават з Амерыкі. Так што часцей за ўсё размаўляю там па-англійску. Трошкі радзей ужываю нідэрландскую мову і калі-некалі карыстаюся наватпольскай.

**– Як, дарэчы, вы атрымалі месца ў кансерваторыі? Пры ўсёй яе міжнароднасці перавага аддаецца, напэўна, «сваім»?**

– Ну ці хаця б людзям з Еўрасаюза. А мне проста пашанцавала. Бо конкурс на пасаду быў унутраны, для супрацоўнікаў кансерваторыі ці яе выпускнікоў. Так што ў мяне была невялікая перавага.

**– У агульным разуменні кансерваторыя – гэта штосьці традыцыйнае, велічнае, класічнае. Амстэрдамская кансерваторыя трапляе ў гэты шэраг асацыяцый?**

– Самой установе больш за сто гадоў, але цяпер яна месціцца ў новым, вельмі сучасным будынку. Мне, напрыклад, не падабаецца, што мы працуем за шклом. То бок няма мура, які адмяжоўваў бы калідор ад класа. Першыя гады гэта ўвогуле напружвала, перашкаджала засяроджвацца. Быццам бы ты ў офісе, а не ў кансерваторыі.

**– Але ж ёсць і перавагі?**

– Там вельмі добрая сістэма рэзервацыі класаў. У камп'ютары або на мабільніку адкрываеш спецыяльны дадатак і за суткі займаеш сабе аўдыторыю для заняткаў. Максімум тры гадзіны на дзень. Гэтай сістэмай карыстаюцца і студэнты, і педагогі (калі ім патрэбны дадатковыя гадзіны). Вельмі зручна.

**– Студэнты па ўсім свеце аднолькавыя?**

– Мне здаецца, што агульны музычны ўзровень у іх прыблізна такі ж, як і ў нас. Але ў галандцаў іншая праблема. Там амаль зніклі музычныя школы. Фінансаванне з боку дзяржавы спыняецца, застаюцца толькі прыватныя ўрокі. Праўда, у амстэрдамскай кансерваторыі ёсць аддзяленне юных талентаў, там займаюцца дзеткі з усёй краіны. Гэта такі міні-ліцэй, але ён працуе толькі ў суботу. Раз на тыдзень праходзяць заняткі па спецыяльнасці, музычнай літаратуры, сальфеджыа, хоры, аркестры.

### Фактар адукацыі

**– Піяніст і конкурсы – гэта амаль што сінонімы. Вы не выключэнне?**

– Цяпер я нават шкадую, што іх было так многа. Гэта была дзікая зацікаўленасць, заняткі па дзесяць, дванаццаць гадзін. Хаця ж можна было падумаць пра пашырэнне рэпертуару, засяродзіцца на агульнай адукацыі.

**– Сёння можна казаць пра захаванне нацыянальных фартэпіянных школ? Ці засталіся толькі стэрэатыпы?**

– Не думаю. На конкурсах адразу чуваць манеру выканання. Скажам, маскоўская школа: яна вельмі атлетычная, гучная. Не перабыльшаеш. Немцаў, французаў, карэйцаў пазнаеш. То бок нейкія агульныя рысы захоўваюцца, але ў выніку ўсё роўна пераважае індывідуальнасць.

**– Некаторыя імкнуцца падкрэсліць яе праз эфектную знешнасць. Што скажаце пра піяністак у міні?**

– Мне нават цяжка гэта каментаваць. Самае цікавае, што выкананне там даволі прыстойнае, але глядзець на іх мне няёмка.

**– Вы часта ходзіце на фартэпіянныя канцэрты? Ці ёсць у вас звычка слухаць калег?**

– Гэта адзін з фактараў маёй амстэрдамскай адукацыі. Я зрабіў вельмі істотны рывок у сваім развіцці менавіта праз наведванне канцэртаў. Магчымасць чуць, бачыць, назіраць за свабодай, без якой не можа быць майстра. Я слухаў найлепшыя аркестры, бачыў самых знакамітых піяністаў. Для студэнтаў там гэта даволі даступна. Ты проста купляеш уваходны квіток за вельмі зразумелыя грошы.

**– Цяпер квіткі купляюць на вас. Нават знакамітая амстэрдамская зала Канцэртгебаў вам скарылася!**

– З першай секунды мяне вельмі ўразіла працягласць рэха. Водгулле – секунды на дзве-тры. Гэткі эфект касцёла. Незабыўныя ўражанні і ад колішніх турнэ па Японіі. Тамтэйшыя залы, раялі былі проста казачнымі.

**– Колькі гадзін у дзень вы праводзіце за інструментам?**

– Даволі многа. Але калі ўсё рабіць без напружанасці, без зацінутасці, стамляецца толькі галава. Хаця ў піяністаў, ведама, ёсць прафесійныя хваробы: спіна, шыя. Але, дзякуй Богу, пакуль трымаюся.

### Складанае пытанне

**– Віталь, пра вяртанне можам хаця б гіпатэтычна паразважаць?**

– Я мару бы жыць у Беларусі, але рэчаіснасць пакуль што іншая. Ёсць цікавая праца, добрыя канцэрты. А для музыканта гэта самае галоўнае. Хаця першы год у Амстэрдаме быў вельмі змрочны. Ні грошай, ні сяброў, ні бацькоў, ні мовы. Мне не хацелася б яшчэ раз атрымаць такі досвед.

**– Вабіць, напэўна, і матэрыяльная свабода?**

– Не адчуваю сябе заможным чалавекам. Будзем казаць шчыра: мой заробак – гэта трошкі больш за афіцыйны мінімум. Але тыя ж прадукты, адзенне, кнігі, тэхніка каштуюць у Амстэрдаме столькі ж, колькі ў Мінску. Агульны ж узровень жыцця непараўнальны.

**– За 15 гадоў атрымалася наладзіць дабрабыт?**

– Сціплае жытло мы пакуль што здымаем, але думаем пашырацца. Бо кватэрка маленькая, а ў нас усё ж такі двое дзетак. Але жывём мы ўтульна і так, як нам звычна.

**– Ваша жонка Аксана таксама піяністка?**

– І вельмі таленавітая. Мы аднакурснікі, пазнаёміліся ў мінскай кансерваторыі на першым курсе, а як атрымалі дыпломы – адразу ажаніліся. Мне, па шчырасці, нават трошкі няёмка, што мая выканальніцкая кар'ера больш паспяховая. Але так складваецца.

**– Сваім дзецям вы пажадалі б музычнага лёсу?**

– Складанае пытанне. У нас не самае простае жыццё. Вядома, чыніць перашкоды не буду. Але калі праз сілу, прымус і з туманнымі перспектывамі – на гэта таксама не рады.

**– Але ж самі не шкадуеце?**

– Мне падабаецца тое месца, якое я займаю ў музычным асяроддзі. Кожны дзень я або ў канцэртнай зале, або ў кансерваторыі. Маё атачэнне – калегі, музыканты. І вельмі прыемна, што гэта не спарадычныя сустрэчы, а сталыя стасункі.

**Аліна СТРАШКЕВІЧ.**

ПРЭМ'ЕРА!

# «Чарнобыль» на вялікім экране: у Мінску адбудзецца паказ папулярнага серыяла на беларускай мове

*28 чэрвеня па ініцыятыве відэасэрвісу VOKA пройдзе спецыяльны паказ першага эпізоду самага папулярнага міні-серыяла сезона – «Чарнобыль» ад HBO – на беларускай мове. Пераклад і агучка серыі выкананы VOKA сумесна з Amediateka Home of HBO. Пасля прэм'еры на вялікім экране ўсе эпізоды «Чарнобыля» на беларускай мове будуць даступны на відэасэрвісе.*

Спецыяльны сеанс першага эпізоду «Чарнобыля» на беларускай мове адбудзецца 28 чэрвеня ў зале VOKA кінатэатра velcom cinema. Арганізатары запрашаюць на паказ усіх жадаючых бясплатна – па папярэдняй рэгістрацыі. Колькасць месцаў абмежавана!

*«Для многіх беларусаў тэма Чарнобыльскай катастрофы была і застаецца адной з самых значных у кантэксце гісторыі краіны, таму відэасэрвіс VOKA не змог застацца ўбаку ад сусветнага рэліза серыяла «Чарнобыль» HBO. Улічваючы жаданне аўдыторыі атрымліваць улюбёны і папулярны кантэнт на роднай мове, VOKA сумесна з анлайн-сэрвісам Amediateka вырашылі перакласці і агучыць міні-серыял «Чарнобыль» па-беларуску»*, – адзначыў намеснік генеральнага дырэктара кампаніі velcom | A1 па лічбавых платформах і кантэнце **Антон Бладзік**.

«Чарнобыль» – арыгінальны міні-серыял HBO, які дэталёва расказвае аб трагічных падзеях на Чарнобыльскай АЭС у красавіку 1986 года. У карціне раскрываецца гісторыя геройчнага ўзаемадзеяння акадэміка Валерыя Лягасава і чыноўніка Барыса Шчарбіны па ліквідацыі наступстваў адной з самых маштабных тэхнагенных катастроф у гісторыі чалавецтва. Факты, якія ёй папярэднічалі, і дзеянні ліквідатараў дакладным чынам адноўлены ў фільме паводле ўспамінаў відавочцаў і архіўных запісаў. Рэжысёрам-пастаноўшчыкам «Чарнобыля» выступіў Ёхан Рэнк, які браў удзел у стварэнні такіх шоу, як «Вікінгі», «Ва ўсе цяжкія» і «Хадзячыя мерцвякі». Сцэнарыст праекта – Крэйг Мазін.

**Вера ВІР.**

ІНІЦЫЯТЫВА

# Памяці Васіля Быкава



У вёсцы Бычкі Ушацкага раёна 19 чэрвеня быў усталяваны мемарыяльны камень з надпісам: «На гэтым месцы стаяла хата, у якой нарадзіўся народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў (1924–2003)».

15 гадоў таму быкаўская хата, што знаходзілася ў занядбаным стане, была знесена па рашэнні мясцовых улад, а замест яе ўзвялі дакладную копію, дзе сёння дзейнічае невялікі музей. Памятную шыльду выразаў скульптар Ігар Засімовіч.

**Антон ЗАГОРСКІ.**
**Фота Глеба ЛАБАДЗЕНКІ.**

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# Не впасть в маразм…

*Академик Бехтерев, который посвятил жизнь изучению мозга, как-то заметил: великое счастье умереть, не растеряв на дорогах жизни разум, будет дано лишь 20% людей. Остальные к старости, увы, превратятся в злых или наивных маразматиков.*

*80% – это значительно больше, чем число тех, кому, если верить бездушной статистике, суждено заболеть раком, болезнью Паркинсона или слечь в старости от хрупкости костей. Для того чтобы войти в будущем в счастливые 20%, постараться придется уже сейчас.*

### Кому грозит слабоумие?

Парадокс: мы много работаем в юности, чтобы не иметь проблем в старости. А получается наоборот. Чем больше мы успокаиваемся и расслабляемся, тем больший вред приносим себе. Уровень запросов сводится к банальному набору «вкусно поесть, вдоволь поспать». Из интеллектуальной работы – разве что разгадывание кроссвордов. Зато непомерно возрастает уровень требований и претензий к жизни и к окружающим: «Я-то трудностей хлебнул, теперь ты покрутись!..»

Усиливается категоричность, возрастает процент оценочных суждений. Раздражение, вызванное непониманием чего-то, выливается в отторжение действительности. Человек, сам того не замечая, глупеет, а то и вовсе превращается в самодура, увеличивая пропасть между собой и окружающим миром. Становится враждебным, глухим и слепым к зову близких. Теряет физическую и интеллектуальную форму. Ослабевают память, способность к мышлению. И постепенно человек отдаляется от реальности, создавая свой, зачастую жестокий и враждебный, болезненный фантазийный мир, из которого каждому, кто соприкасается с ним, хочется убежать как можно дальше.

Более всего слабоумие (*деменция*) грозит тем, кто прожил жизнь, не меняя своих установок. Такие черты, как чрезмерная принципиальность, упорство, консерватизм, скорее приведут в старости к слабоумию, чем гибкость, способность быстро менять решения, эмоциональность.

### Первые ласточки

Деменция никогда не приходит внезапно. Слабоумие – не сумасшествие, и не психическое отклонение и уж тем более не болезнь. Поэтому и отследить его начало невероятно сложно. Оно прогрессирует с годами, приобретая все большую и большую власть над человеком. То, что сейчас всего лишь предпосылки, в будущем может стать благодатной почвой для ростков слабоумия. Вот некоторые косвенные признаки, указывающие на то, что вам, может быть, стоит уже сейчас обратить на себя внимание.

– Вы стали болезненно воспринимать критику, в то время как сами слишком часто критикуете других.

– Вам не хочется учиться новому. Скорее согласитесь на ремонт старого мобильного телефона, чем будете разбираться в инструкции к новой модели.

– Вы часто произносите «А вот раньше…», то есть ностальгируете по старым временам.

– Вы готовы с упоением рассказывать о чем-то, невзирая на скуку в глазах собеседника. Неважно, что он сейчас заснет, главное, что то, о чем вы говорите, интересно вам.

– Вам трудно сосредоточиться, когда вы начинаете читать серьезную или научную литературу. Плохо понимаете и запоминаете прочитанное. Можете сегодня прочитать половину книги, а завтра уже забыть ее начало.

– Вы стали рассуждать о вопросах, в которых никогда не были сведущи. Например, о политике, экономике, поэзии или фигурном катании. Причем вам кажется, что вы настолько хорошо владеете вопросом, что могли бы прямо завтра начать руководить государством, стать профессиональным литературным критиком или спортивным судьей.

– Вы уверены, что другие должны подстраиваться под вас, а не наоборот.



– Временами вы замечаете, что тираните окружающих какими-то своими поступками, причем делаете это без злого умысла, а просто потому, что считаете, что так правильнее.

### Тренируйте мозг

Заметьте: самыми светлыми людьми, до преклонных лет сохраняющими разум, как правило, являются люди науки и искусства, то есть те, кому по долгу службы приходится напрягать свою память и совершать ежедневную умственную работу. Более того, им приходится все время держать руку на пульсе современной жизни, не отставать от новых тенденций и даже в чем-то опережать их. Такая «производственная необходимость» и есть гарантия счастливого разумного долголетия.

– Каждые два-три года начинайте чему-то учиться. Конечно, вам не обязательно поступать в институт и получать третье или даже четвертое образование. Но вы вполне можете пройти краткосрочный курс повышения квалификации или освоить совершенно новую профессию. Старая суфийская притча: «Ученик мудреет в глазах Бога, но молодеет в глазах людей».

– Окружайте себя молодыми людьми. У них вы всегда сможете подначабраться всяких полезных вещей, которые помогут вам всегда оставаться современным.

– Если вы давно не узнавали ничего нового, может быть, вы просто не искали?

– Время от времени решайте интеллектуальные задачки и проходите всевозможные предметные тесты, благо и того, и другого сейчас более чем достаточно в интернете.

– Постоянно учите иностранные языки. Даже если вы не будете на них разговаривать и не выучите язык как следует, все равно необходимость регулярно запоминать новые слова поможет тренировать память.

– Растите не только вверх, но и вглубь! Доставайте старые учебники и периодически вспоминайте школьную и вузовскую программы!

– Занимайтесь спортом! Регулярная физическая нагрузка до седых волос и после действительно спасает от слабоумия.

– Чаще тренируйте память, заставляя себя вспоминать стихи, которые когда-то знали наизусть, танцевальные па, программы, которые разучивали в институте, номера телефонов старых друзей и многое другое – все, о чем сможете вспомнить.

– Разбивайте привычки и ритуалы! Чем больше ваш следующий день будет отличаться от предыдущего, тем меньше вероятность, что вы «закоптитесь». Ездите на работу по разным улицам, откажитесь от привычки заказывать одни и те же блюда, занимайтесь тем, чего никогда раньше не умели.

– Давайте больше свободы другим и делайте как можно больше сами. Чем больше спонтанности, тем больше творчества. Чем больше творчества, тем дольше вы сохраните ум и интеллект!

### Справочно

***Деменция** (лат. dementia – безумие) – приобретенное слабоумие, стойкое снижение познавательной деятельности с утратой в той или иной степени ранее усвоенных знаний и практических навыков и затруднением или невозможностью приобретения новых. В отличие от олигофрении – слабоумия врожденного или приобретенного в младенчестве, представляющего собой недоразвитие психики, деменция – это распад психических функций, происходящий в результате поражений мозга. Это может происходить в молодости в результате аддиктивного поведения (зависимости от алкоголя, лекарственных препаратов, наркотиков), но чаще всего – в старости (сенильная деменция; от лат. senilis – старческий, стариковский). В народе сенильная деменция носит название старческий маразм. По данным ВОЗ, в 2015 году во всем мире насчитывалось более 46 миллионов людей с деменцией. В 2017 году эта цифра увеличилась до 50 миллионов. Ежегодно регистрируются 7,7 миллиона новых случаев деменции, каждый из которых становится тяжким бременем для семей и здравоохранения. Ожидается, что это число увеличится до 131,5 млн к 2050 году.*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
25 ЧЭРВЕНЯ 2019 г.

АРТ-ЖИЗНЬ

# Сбросимся по одному евро на Дали?



Выставка скульптур Сальвадора Дали в Национальном художественном музее работает уже два месяца. Аншлага нет, и, как сказали мне работники музея, организаторов это даже несколько разочаровывает. Тем не менее минская публика течет на Дали ровным тонким ручейком.

Скульптуры Дали привезла в столицу инвестиционная компания «Гальперин и сыновья». Самая известная работа коллекции – это «Триумфальный слон», который стоит сейчас у центрального входа в музей, и директор Владимир Иванович Прокопцов буквально сдувает пылинки с дорогого экспоната. Он вообще считает, что Дали – хорошая приманка для гостей столицы, которые сейчас приехали в Минск на Европейские игры. Увидят Дали – пойдут в музей, а там и Белыницкого-Бирулю посмотрят, и по работам современных белорусских художников глазами пробегут. Такая вот дальновидная политика.

А у представителя компании «Гальперин и сыновья» свой интерес. Леонид Гальперин хотел бы, чтобы знаменитый «Триумфальный слон» после официального закрытия выставки навсегда остался в Минске. Например, на улице Зыбицкой. Неплохая идея. Атмосфера этой гуляющей-гудящей молодежной улицы вполне соответствует веселому животному на тонких ножках, который несет на спине трубача. Но работы Дали (тем более так называемого авторского тиражирования) стоят немалых денег. Больших денег. В данном случае за «Триумфального слона» его владелец Беньямино Леви, арт-дилер и ведущий эксперт по бронзе Сальвадора Дали, просит 1.200.000 евро. И господин Гальперин озабочен сейчас поисками меценатов. Пусть бы ему повезло! Но есть и другая идея: сброситься каждому минчанину всего по одному евро на заморского слона. Как вам эта мысль? В столице проживает 1,975 миллиона человек (на 2017 год). За вычетом детей (их примерно 370 тысяч) и пенсионеров (еще 474,8, но почти 200 тысяч из них работают) платежеспособным остается как раз нужный миллион двести тысяч человек, который может без ущерба для личного кошелька расстаться с одним евро. И тогда всемирно знаменитый Дали у нас в кармане. Городском кармане.

Как вы думаете, жизнеспособная идея? Наверное, молодежь согласится быстро. Другие возрастные группы, скорее всего, начнут дискутировать на тему «а зачем нам это надо?», и идея, как говорится, заблудится в овсах. А жаль. Пусть бы в Верхнем городе стоял шестиметровый бронзовый привет из Европы. Как говорится, немножко сюрреализма в наш строгий режимный Минск...

**Елена МОЛОЧКО.**

УСМІХНІЦЕСЯ!

Жонка прыходзіць з торбай, ідзе ў залу:

– Дарагі, гэта вось табе!

Выкладвае з сумкі піва, воблу, ракаў.

– А чаго ты, мілы, футбол не глядзіш? Табе прыгатаваць якуюнебудзь смакату?

Муж:

– Моцна?

Жонка:

– Не вельмі: фара, бампер і капот.

***

Бацькі застукалі дзіця за паглынаннем хамячага корму. Корм адабралі, рот прапаласкалі. Бацька чытае на ўпакоўцы:

– Пшаніца, проса, гарох, морква, бульба, вітаміны A, C, D, E.

Маці (*задуменна*):

– Можа, яму яшчэ даць?

***

– Колькі разоў табе паўтараць: сок – гэта калі напісана 100 працэнтаў, напой – калі ад 50 да 80, а калі напісана 40 працэнтаў – то гэта нектар!

– О! Гарэлка – гэта нектар!

***

– Ведаеш, дарагі, за ўсё маё жыццё ў мяне былі толькі два сапраўдныя мужчыны...

– А хто другі?

– Ды ты, уласна кажучы, і першага не ведаеш...

***

Купіла кітайскі чай для пахудзення. З торцікам – ачмуральна!

***

– Мая жонка – сапраўдная інтэлектуалка: іграе на раялі, свабодна гаворыць на пяці мовах, выдатна ведае гісторыю і геаграфію!

– Так... Мая таксама далёка не прыгажуня...

***

– Трэба займацца тым, што атрымліваецца лепш за ўсё.

– Добра, лягу і буду глядзець серыялы.

***

– Люся, як жа ты класна выглядаеш! У цябе новы касметолаг?

– Не, я проста месяц не працую.

***

Адэса, Прывоз:

– Нешта ў вас рыба нейкая непрыгожая, бледная?

– А шо вы хочаце, мадам? Прачнулася ў моры сёння рана, не паспела нафарбавацца...

***

Гутараць два псіхолагі:

– Я ў кожнага свайго пацыента заўсёды пытаюся, ці гуляе ён у шахматы...

– Навошта?

– Калі ён не гуляе, раю пачаць гуляць, а калі гуляе, раю кінуць.

– Але чаму?

– Ды сам не ведаю, але ў 80 працэнтах выпадкаў дапамагае...

КРЫЖАВАНКА

# Сумленне беларускай нацыі

*Да 95-годдзя з дня нараджэння Васіля Быкава*



**Па гарызанталі:** 1.Вёска ва Ушацкім раёне, дзе 95 гадоў таму, 19 чэрвеня 1924 года, у сялянскай сям'і нарадзіўся сусветна вядомы народны пісьменнік Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат многіх узнагарод і кавалер шэрагу ордэнаў, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Васіль Быкаў. 5.«Альпійская …» (1963 г.) – адзін з шырока вядомых твораў пісьменніка, паводле матываў якога кампазітар Я.Глебаў стварыў аднайменны балет, а студыя «Беларусьфільм» зняла аднайменны мастацкі фільм. 8.«Доўгая … дадому» (2002 г.) – кніга ўспамінаў В.Быкава. 10.17-я літара грэчаскага алфавіта. 12.Чэрвень – … доўгіх траў і сенакосаў (прык.). 14.Тое, што і хрэстаматыя. 15.«Калі рухаюцца … « (2003 г.) – супольная кніга В.Быкава і Р.Барадуліна. 19.«Любіце і шануйце, як святыню, роднае …, з якім вас літасцівы Бог на свет пусціў» Ф.Скарына. 20.«На купалле на святое // Рві, матуля, … тое» – з верша Я.Купалы «На купалле». 21.Ваенны, баявы (саст.). 22.Народнасць, якая жыве на поўначы Расіі. 23.Ідзі ў родны …, там і пад ёлкаю рай (прык.). 24.Той, хто набыў вялікую вядомасць у літаратуры і іншых галінах дзейнасці; ім быў і застаецца наш Васіль Быкаў. 28.«Кажуць, мова мая аджывае \\ … свой ціхі: ёй знікнуць пара. // Для мяне яна вечна жывая» – з верша П.Панчанкі «Родная мова». 30.Нота музычнай гамы. 32.«Трэцяя …» (1961 г.) – аповесць, пасля публікацыі якой да В.Быкава прыйшла шырокая вядомасць. 33.Жывапісец, графік; ім быў В.Быкаў, які вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы, аб чым сведчыць мемарыяльная дошка на будынку гэтай навучальнай установы. 34.«Васільком у жыце Беларусі // Назаўсёды застанецца …» – з паэтычнага прысвячэння Р.Барадуліна В.Быкаву.

**Па вертыкалі:** 1.Той герой, хто прыняў … (прык.). 2.Напрамак руху. 3.«Даруй ! // Даруй, Васіль, // За ўсё, што перанёс: // За ворагам нанесеныя …, // За брудныя пляўкі з тэлеэкрана» – з верша Г.Бураўкіна «Даруй!», прысвечанага В.Быкаву. 4.«Я – беларус, мая родная … – беларуская» В.Быкаў. 6. Вокліч з пераможнай інтанацыяй. 7. Род войск, у якіх узводны В.Быкаў праслужыў на перадавой ад пачатку вайны да яе канца, быў паранены, лічыўся загінуўшым, аб чым яго бацькі атрымалі «пахавальную». 9.Орган размнажэння у грыбоў. 11. … беларускай нацыі – такім ганаровым званнем узнагародзіў беларускі народ В.Быкава. 13.«Залаты …» – літаратурная прэмія, якой быў узнагароджаны пісьменнік пасмяротна. 16.Ганенне, цкаванне. Тое , праз што прайшоў выдатны сын беларускай зямлі В.Быкаў. 17. … Кіт – імя сусветна вядомага буйнога вучонага, беларуса, пра сяброўста з якім В.Быкаў распавёў у кнізе «Грамадзянін свету». 18.У чэрвені … не гасне (прык.). 25.Добрым людзям – мір, а шаленцам – галавою ў … (прык.). 26.«Партызанскі …» – шэраг твораў пісьменніка; «Круглянскі мост» (1968 г.), «Пайсці і не вярнуцца» (1978 г.), «Знак бяды» (1982 г.), аб'яднаных тэмай партызанскай барацьбы з ворагам. 27.Вясну хваляць за дажджы, а … – за снапы (прык.). 28.У чужым баку … па кулаку (прык.). 29.«Воўчая …» (1998 г.) – аповесць, якую пісьменнік прысвяціў жыццю ў чарнобыльскай зоне; тэма Курапатаў апісана ім у аповесці «Жоўты пясочак» (1995 г.), па якой зняты мастацкі кінафільм. 31.І заяц тады смелы, калі … у клетцы (прык.).

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Бычкі. 5.Балада. 8.Дарога. 10.Ро. 12.Час. 14.Чытанка. 15.Душы. 19.Слова. 20.Зелле. 21.Ратны. 22.Ненцы. 23.Край. 24.Свяціла. 28.Век. 30.До. 32.Ракета. 33.Мастак. 34.Быкаў.

**Па вертыкалі:** 1.Бой. 2.Курс. 3.Раны. 4.Мова. 6.Ага! 7.Артылерыя. 9.Аск. 11.Сумленне. 13.Апостраф. 16.Астракізм. 17.Барыс. 18.Дзень. 25.Вір. 26.Цыкл. 27.Лета. 28.Вочы. 29.Яма. 31.Леў.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**
**г. Дзяржынск.**

АНОНС

# Выйшаў новы нумар часопіса «Наша гісторыя»

*Гэтым разам ён мае дзве цэнтральныя тэмы: 1000-годдзе Брэста і Люблінская унія.*

Люблінская унія была заключана 450 гадоў таму. Да яе прывяла «паглыбленая інтэграцыя» Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай, і палітычная эліта ВКЛ кусала локці тады, калі ўжо нічога немагчыма было змяніць.

А Брэсту ў нумары прысвечаны адразу некалькі матэрыялаў. «Горад, якога няма» – гэта пра архітэктуру Старога Горада, дзе знайсці тыя месцы ў крэпасці і што там можна адбудаваць. Скрупулёзныя гістарычныя рэканструкцыі правёў Аляксандр Невар. Эмацыйны ж цэнтр нумара – гэта вельмі незвычайны матэрыял маладога навукоўца Антона Дацкевіча пра былыя прадмесці Брэста. Рэчыца, Вулька, Шпановічы… Антон абышоў гэтыя селішчы, вуліцы, запісваючы ўспаміны старых людзей, легенды, мову. Нават я, ураджэнец горада і пераможца – хе-хе-хе! – 35 гадоў таму гарадской краязнаўчай алімпіяды, адкрываў для сябе нечаканае: Любошча Гара, «максімяны» ў Пугачове, каўбаснікі… Прычым гэта будзе цікава і неберасцейцам – правяралі ў рэдакцыі перад выпускам.

Алесь Белы гэтым разам напісаў пра «кішку», дакладней, пра дзве кішкі – крывяную і бульбяную, тую, чэмпіянат па смажанні якой праходзіць у Супраслі.

Віталь Чырвінскі адкрывае постаць Караля Прозара. Адзін факт – чалавек ускрыў труну жонкі, каб пакласці ёй паўстанцкія манеты. Глядзі: тваё, наша жыццё, нашы пакуты, тулянні не былі дарэмнымі, наша зямля зноў паўстала.

Аляксей Ластоўскі пераносіць нас у часы грамадзянскай вайны ў Іспаніі. Роля беларусаў там была розная: асабліва цікавы сюжэт з вывазам залатога запасу краіны ў Маскву. Беларус-дыверсант Арлоўскі перасякаўся з Хемінгуэем, а Фельдзін – ён жа Нікольскі – жахнуў Оруэла.

Сямейныя гісторыі прэзідэнтаў БНР – гэта ўжо асабістае. Абрамчыкі – свая драма, крыўда, схаваны архіў. Вінцэнт Грышкевіч і Раіса Жукоўская – другое каханне, якое стала вялікім. Упэўнены, што вы многіх гісторый не ведаеце. Адкрыеце для сябе другое вымярэнне гісторыі БНР.

Іншыя героі нумара – Стаханаў (і яго жонкі), Апошні вампір (комікс).




«Наша гісторыя» апавядае пра беларускую гісторыю цікава, а пра сусветную – з беларускіх пазіцый.

Дык падпісвайцеся – і будзеце штомесяц чытаць захапляльнае беларускамоўнае выданне. Я нагадаю вам, што акурат цяпер ідзе падпіска на другое паўгоддзе. Праз падпіску – самая нізкая цана на часопіс.

**Андрэй ДЫНЬКО.**

ЕВРОПЕЙСКИЕ ИГРЫ-2019

## Не обошлось без спекулянтов

*Милиция выявила факты несанкционированной реализации и перепродажи билетов на Европейские игры через интернет-ресурсы.*

Как сообщает пресс-служба МВД Беларуси, были установлены три сайта, на которых содержалась информация о продаже билетов. Эти ресурсы размещены на виртуальных серверах, доступ к которым осуществлялся с территории России – из Москвы и Санкт-Петербурга.

В настоящее время доступ к указанным интернет-ресурсам на период проведения Игр ограничен. Также белорусские правоохранители уведомили российских коллег о данном факте для дальнейшего реагирования, согласно законодательству России.

## За безопасный секс!

*В Олимпийской деревне есть стенды с бесплатными презервативами.*

Их раздают спортсменам. Это стандартная практика на больших соревнованиях. Если на Олимпиаде-1988 раздали 8,5 тысячи презервативов, то в Рио-2016 – 450 тысяч, сообщает kp.by.

Стенды с презервативами есть и во всех общежитиях.




## По одежке встречают

*На время проведения Европейских игр минской милиции было поручено не использовать российские служебные автомобили марки ВАЗ.*

Как сообщает телеграм-канал Nexta, в документе, адресованном руководству Минского городского управления Департамента охраны Республики Беларусь, говорится: *«В целях формирования и поддержания на высоком уровне положительного имиджа (охраны и милиции) необходимо исключить нахождение на маршрутах патрулирования служебных транспортных средств марки ВАЗ»*.

Исключение сделано только для модели Lada Largus. А использование модели Chevrolet Niva в дневное время минским милиционерам нужно будет «минимизировать».

## Голод – не тетка, но…

*В баре пресс-центра Европейских игр цены почти такие же, как и в ресторанах.*

Например, бургер с говядиной можно купить за 12 рублей, а мясная лазанья весом 300 граммов стоит 15 рублей.

За сэндвич с ростбифом придется отдать 9 рублей, за вегетарианский вариант – 7 рублей. Пирожным можно будет полакомиться за 7 рублей, а кофе потянет на 3 рубля.

## Кто следующий?

*Польский Краков примет III Европейские игры, которые состоятся в 2023 году.*

Как сообщает пресс-служба Европейских олимпийских комитетов, решение о выборе столицы соревнований было принято на генеральной ассамблее ЕОК в Минске.

Польский город оказался единственным претендентом на проведение спортивного форума. Больше желающих принять «грандиозный спортивный форум» не нашлось.

ФУТБОЛ

# Брэсцкае «Дынама» не здае пазіцыі

*Прайшлі матчы 12-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: «Энергетык-БДУ» (Мінск) – «Тарпеда» (Мінск) – 2:1, «Нёман» (Гродна) – «Гарадзея» – 1:3, «Іслач» (Мінскі раён) – БАТЭ (Барысаў) – 0:0, «Дынама» (Мінск) – «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – 0:3, «Шахцёр» (Салігорск) – «Дынама» (Брэст) – 0:0, «Слуцк» – «Мінск» – 1:0, «Віцебск» – «Дняпро» (Магілёў) – 2:1, «Гомель» – «Славія» (Мазыр) – 2:2.



Фота: dynamo-brest.by.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Бр) | 12 | 9 | 3 | 0 | 26–6 | 30 |
| БАТЭ | 12 | 9 | 1 | 2 | 19–4 | 28 |
| Шахцёр | 12 | 8 | 1 | 3 | 18–9 | 25 |
| Тарпеда-БелАЗ | 12 | 7 | 2 | 3 | 17–8 | 23 |
| Дынама (Мн) | 12 | 7 | 1 | 4 | 17–12 | 22 |
| Іслач | 12 | 7 | 1 | 4 | 15–9 | 22 |
| Славія | 12 | 5 | 3 | 4 | 16–14 | 18 |
| Віцебск | 12 | 4 | 4 | 4 | 13–14 | 16 |
| Гарадзея | 12 | 4 | 4 | 4 | 9–12 | 16 |
| Нёман | 12 | 4 | 1 | 7 | 11–19 | 13 |
| Дняпро | 12 | 2 | 4 | 6 | 11–18 | 10 |
| Слуцк | 12 | 2 | 4 | 6 | 10–23 | 10 |
| Энергетык-БДУ | 12 | 2 | 4 | 6 | 13–28 | 10 |
| Мінск | 12 | 1 | 6 | 5 | 10–16 | 9 |
| Гомель | 12 | 2 | 2 | 8 | 19–23 | 8 |
| Тарпеда | 12 | 1 | 3 | 8 | 3–12 | 6 |

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 24.06.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 005 экз. Заказ № 2009.

9 772071 964000 19049